# Зьмест.



---

Менск, 1-я друкарня „ДВБ“ зак. № 1655—6.000 экз. Галоўлітбел № 15.801

Пролетары ўсіх краеў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-папулярная сельска-гаспадарчая часопісь.



II год выданьня Люты 1926 г. № 2

## Чарговыя пытаньні с.-г. і зямельнай політыкі.

*(З дакладу Наркома Земляробства тав. Прышчэпава III-му Ўсебеларускаму зьезду зямельных працаўнікоў, 6 лютага 1926 г.).*

Галоўныя рысы сельска-гаспадарчай зямельнай політыкі Савецкай улады за мінулы год, якія абгаворваліся на II-м Усебеларускім зьезьдзе зямельных працаўнікоў, у аснове былі верны. Напрыклад, пытаньне земляўпарадкаваньня і мэліорацыі, пытаньне надзяленьня малазямельнага сялянства зямлёй разам з гаспадарчай адбудовай гэткіх гаспадарак і шырокай агрономічнай дапамогай наогул, як можна бачыць у мінулым годзе поўнасьцю сябе апраўдалі. Зараз мыназіраем, як побач з дзяржаўнаю мэліорацыйнаю працаю па асушцы і культуры балот уцягваецца масавае сялянства. Таксама патрабуе далейшага правядзеньня і праца па земляўпарадкаваньню.

Ёсьць нават думка Дзяржпляна СССР, каб гэту працу праводзіць больш шырокім крокам (замест 10 год, правесьці яе ў 7 год), але тут трэба падлічыць усе нашы гаспадарчыя мажлівасьці. Ці можам мы сваім земляўпарадкаваньнем ахапіць яшчэ большую плошчу зямлі, калі разам з гэтым мы праводзім гаспадарчую адбудову, забудову на новых сялібах, перавод на шматпольле, коопэраваньне і г. д.

Перавод гаспадарак на шматпольле і стварэньне больш даходнай (інтэнсыўнай) гаспадаркі, таксама сябе апраўдалі. Цяпер-жа як-бы спрэчным зьяўляецца толькі пытаньне, як хутка можна праводзіць гэты разьвітак сельскай гаспадаркі далей. Але можна прывесьці шмат даных за тое, што ў нас ёсьць усе мажлівасьці для шпаркага разьвіцьця (інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі).

Напрыклад, у нашых с.-г. раёнах, як Віцебшчына, паўночная Магілеўшчына і Меншчына, прыпадае на 1 дзес. ад 91,52 і да 103 жытных адзінак актыўнага капіталу *). і ад 39,7 да 42,2 мужчынскіх дзён працы. Толькі ў Палесьсі на 1 дзес. прыпадае капіталу амаль у два разы менш.

Такім чынам, усе раёны за выключэньнем Палесься, маюць значны капітал у гаспадарцы. Таксама можна бачыць перабудоўваньне нашай гаспадаркі ў бок большай даходнасьці (інтэнсыфікацыі) і па зьмене складу палявых расьлін: амаль усюды зьмяншаецца процант збожжа і замест яго павялічваюцца травы, лён, бульба.

Віцебшчына і частка Магілеўшчыны асабліва адрозьніваюцца культурай лёну, раёны малочнай жывёлагадоўлі пашыраюць травы і г.д.

Такім чынам, ва ўсіх раёнах, мо' за выключэньнем Палесься, наша сельская гаспадарка мае мажлівасьці і будзе хутка расьці. А дзеля таго, каб і Палесьсе ўзьняць экономічна на ўзровень іншых

*) Капітал у скаціне, с.-г. прыладах і зваротных сродках.



раёнаў, там неабходны належныя дзяржаўныя мерапрыемствы, як зьвязаныя з с.-г. палітыкай (мэліорацыя), так і з мерапрыемствамі Савецкай улады наогул (будаваньне дарог і г. д.).

Другім чарговым пытаньнем зьяўляецца таварнасьць сельскай гаспадаркі і рынак. Тыя продукты, якія пастаўляе на рынак сельская гаспадарка, амаль у поўнай меры могуць яе характэрызаваць; напрыклад, усе рыначныя продукты сельскай гаспадаркі Беларусі ў 1911-13 і 25 г. г. па яе галінах разьмяркоўваліся па рознаму ў проц.

| | 1911-13 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| Збожжа . . . . | 8,3% | 16,6% |
| Лён і каноплі . . . | 48,6 | 51,0 |
| Бульба . . . . | 14,5 | — |
| Сьвінагадоўля і жывёлагадоўля . . . . | 28,7 | 32,4 |

Адсюль можна бачыць, што наданьне нашай гаспадарцы жывёлаводнага ўхілу, з разьвіцьцём малочнай гаспадаркі і сьвінагадоўлі, з пашырэньнем тэхнічных культур, траў і г. д. зьяўляецца правільным.

Але таварнасьць нашай сельскай гаспадаркі неабходна павысіць. Гэтага можна дасягнуць пабудоваю спэцыяльных прадпрыемстваў для тэхнічнай перапрацоўкі яе продуктаў (збожжа, бульбы, лёну, садовіны, малака і г. д.).

Перапрацоўка продуктаў сельскай гаспадаркі дасьць мажлівасьць перакідаць іх на больш далёкі рынак і з большым прыбыткам. Гэтага патрабуе рост нашай гаспадаркі. Гэта-ж павялічыць і наш вываз, каб замест яго прывозіць угнаеньні і г. д.

Побач з перапрацоўкай с.-г. продуктаў стаіць і пытаньне аб разьвіцьці с.-г. прамысловасьці (с.-г. індустрыі). Мы ведаем, што даходнымі гаспадаркамі ў памешчыкаў былі тыя, якія мелі заводы і розныя прадпрыемствы. Разьвіцьцё-ж нашай с.-г. прамысловасьці разам з коопэраваньнем сялянскіх гаспадарак зьяўляецца асновай дзеля соцыялістычнага земляробства.

Таксама тут цесна зьвязана і разьвіцьцё прамысловасьці наогул. Без прамысловасьці сельская гаспадарка ня можа расьці. Прамысловасьць павялічвае рынак, зьмяншае беспрацоўе, палепшвае тэхніку і ствapae культуру наогул. Толькі пад уплывам гарадзкой і с.-г. прамысловасьці сельская гаспадарка будзе перабудоўвацца на соцыялістычны лад. Але наша прамысловасьць павінна будавацца так, каб скарыстоўваць галоўным чынам сыр'ё сельскай і лясной гаспадаркі.

У пытаньнях коопэрацыі і крэдыту патрэбна зьвярнуць увагу на разьвіцьцё яе спэцыяльных відаў (малочная, машынная і г. д.). Нельга нашаму селяніну купляць насеньне канюшыны заграніцай ці ў іншых раёнах, бо яго можна мець на месцы; таксама можна мець насеньне лубіну, сэрадэлі, траў і г. д.

На крэдытаваньне ў гэтым годзе прызначана 12.200 тыс. руб., якое ў большай меры неабходна даць выкарыстаць беднаце.

*Такім чынам, чарговымі пытаньнямі с.-г. політыкі ў нас зьяўляюцца організацыя рынку, пабудова цэлай сеткі тэхнічных прадпрыемстваў для лепшага збыту таварнай часткі сялянскай гаспадаркі, разьвіцьцё с.-г. і гарадзкой прамысловасьці, разьвіцьцё спэцыяльных відаў коопэрацыі, крэдытаваньне маламоцнага сялянства і г. д.*

У пытаньнях зямельнай політыкі трэба адзначыць неабходнасьць замацаваць і правесьці ў закон цэлы шэраг новых палажэньняў, якія дапаўнялі-бы нашу зямельную політыку і спрыялі-бы хутчэйшаму росту сельскай гаспадаркі.

Так, патрэбна пераглядзець найменшыя (*мінімальныя*) *нормы землянадзяленьня*; іх, напэўна, неабходна павялічыць. Гэтыя нормы зьяўляюцца малымі і ў тым выпадку, калі мы перадаем пад с.-г. скарыстаньне аблогі, пусташы, вырубкі і г. д. Падругое, патрэбна ясна высьветліць і замацаваць законам, *да якіх разьмераў можа дзяліцца сялянская гаспадарка.* Стыхійны падзел гаспадарак можна прывесьці к таму, што ня будзе ніякае мажлівасьці рэгуляваць сельскай гаспадаркай і спрыяць яе шпаркаму разьвіцьцю (інтэнсыфікацыі).

Ня меншае значэньне мае і *правільнае праводзеньне земляўпарадкаваньня.* Тут асабліва патрэбна асьцярожна падыходзіць да беднаты, якую часта пры ўнутрыселічным земляўпарадкаваньні перакідваюць на далёкія і спустошаныя землі. Трэба акрэсьліць законам, што бедната, калі яна выходзіць на такія землі, то ёй даюць грашовую дапамогу больш заможныя гаспадары, якія застаюцца на месцы.

Таксама неабходна яснае вызначэньне закону наконт скарыстаньня сялянамі *асушаных балот і аблесеных пусташаў.* Селянін павінен ведаць, што тут яго праца і сродкі не загінуць дарма. А аблясеньне раскіданых часта няпрыгодных і пустуючых зямель, зьяўляецца чарговай задачай. Аблясеньне будзе праводзіць сялянства, як у лясох мясцовага значэньня, так і на тых пусташах, якія будуць ім яшчэ пераданы.

Усё гэта, калі яго ўзяць разам, будзе толькі спрыяць разьвіцьцю і перабудове сельскай гаспадаркі на соцыялістычных падставах.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Як у адно лета зьняць 3 ураджаі, або атрымаць 5 тыс. руб. з аднае дзесяціны.

З прычыны малазямельля і нястачы ўгнаеньня, таксама дзякуючы і таму, што ў апошні час ужо вельмі многа, як у літаратуры, так і ў розных агрономічных лекцыях гаворыцца аб баечных замежных ураджаях і нашай някультурнасьці, я рашыў у мінулым 1925 г. зьняць за адно лета мажліва больш ураджаяў з аднаго і таго-ж вучастку зямлі.

Дзеля гэтага я вызначыў вычастак зямлі пад вопыты, які і ўзараў увосень 1924 г. на глыбіню 6—7 вярш. У гэты час зрабіў кампосную кучу, куды і пачаў звальваць розныя адкіды—лісьце дрэў, карэньні дзікіх траў, бацьвіньне, птушыны памёт, сажу з печы і г. д. Пачаў зьбіраць попел.

Вясной 1925 году, як толькі зямля прасохла, вучастак зямлі, які быў мною ўзяты пад вопыты, быў угноены кампостам па разьліку 1000 пуд. на дзес. Акрамя таго, дабавіў яшчэ попелу па разьліку 60 п. на дзес. Пасьля зрабіў градкі і разьбіў на вучасткі па 10 кв. саж.

На адным вучастку *пасадзіў раньнюю бульбу і паверх* яе *пасеяў расаду капусты і бруквы.*

На другім вучастку *пасеяў толькі раньнюю бульбу.*

На трэцім вучастку пасадзіў позны сорт бульбы. На чацьвертым вучастку пасеяў кармовыя буракі.

У канцы травеня расада ўжо была сабрана з 1-га вучастку, каля 4000 шт. па 2-3 руб. тысяча; усяго на 8 руб. 50 кап.

У гэты час бульба на першым вучастку ўжо ўзышла, а на другім пачала кусьціцца: да паловы чэрвеня бульба на гэтых двух вучастках амаль зраўнялася.

У пачатку ліпеня з двух першых вучасткаў бульбу выкапалі. Першы вучастак, дзе была пасеяна расада, даў 10 пуд., а другі вучастак, дзе была толькі адна бульба, даў 15 пуд. Цана на бульбу 1 ліпеня была 1 р. за пуд.

Пасьля прыборкі бульбы, гэтыя два вучасткі былі пераараны і прыбаўлена было яшчэ попелу па разьліку 40 пуд. на дзес. Далей на *першым вучастку пасадзілі турнэпс*, а на другім *вучастку кармовыя буракі*, расаду якіх бралі з 4-га вучастку, калі яе прарывалі на тым вучастку.

Праца вялася ручным спосабам звычайнай рыдлёўкай. У працягу лета ўсе расьліны добра выпалваліся, асыпаліся матыкаю і ў сухую пагоду паліваліся гнаёвай жыжкай пасьля прыбаўленьня вады.

У кастрычніку прыбралі ўвесь ураджай з усіх вучасткаў. Сабралі

з 1-га вучастку турнэпса . 10 п.
з 2-га „ кармовых буракоў 9 п. 30 ф.
з 3-га „ бульбы . 17 п.
з 4-га „ карм. буракоў . 15 п.

З паказаных вопытаў відаць, што з першага вучастку я сабраў тры ўраджаі—*расаду, бульбу, турнэпс.*

з 2-га вучастку два ўраджаі—*бульбу* і *буракі.*
з 3-га „ адзін ўраджай—*бульбу.*
з 4-га „ „ „ —*буракі.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 вучастак 10 кв. саж. | Расады | 4 тыс. шт. | —8 руб. 50 кап. |
| | Бульбы „ | 10 пуд., | . 10 „ |
| | Турнэпсу „ | 10 „ | . 2 „ 50 кап. |

Усяго 21 руб., а з аднае дзес. 5040 руб.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 вуч. 10 кв. сажн. | Ураджай бульбы | 15 пуд. | —15 р. |
| „ „ „ | буракоў | 9 „ | — 2 р. 25 к. |

Усяго 17 руб. 25 к., а на 1 дзес. 4140 руб.

3 вуч. 10 кв. саж. Ураджай бульбы 17 пуд.—4 руб. 25 кап.
*На адну дзес. 1020 руб.*

4 вуч. 10 кв. сажн. Ураджай буракоў 15 п.—3 руб. 75 кап.
*На адну дзес. 900 руб.*

Такім чынам відаць, што можна мець вялікі прыбытак пры падборы расьлін, іх скарасьпеласьці і збыце на рынку.

Пазнейшая бульба, хоць і дае вялікі ўраджай, але за тое асеньнія цэны такія нізкія, што павышэньне ўраджаю не аплачваецца.

Каб атрымаць такія ўраджаі ці правесьці падобныя вопыты, грошай ня трэба, а патрэбна толькі жаданьне і цярплівасьць і тады мы будзем мець магчымасьць выпярэднічаць з замежнымі краінамі.

Угнаіць з восені мае вучасткі я ня мог, бо ня было гною, а гэта значна павысіла-б ураджайнасьць.

К вопытам на 1926 г. зямля ў мяне ўжо падрыхтавана і ўгноена восені. У 1926 г. думаю пашырыць свае вопыты.

Дуброўна, Аршаншчына. Селянін-вопытнік **Т. Апет.**

# Сартовае насеньне Беларусі.

За апошнія гады мы бачым вялікае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ва ўсіх яе галінах. Павялічваецца плошча пад пасевамі, павялічваюцца і ўраджаі ўсіх расьлін, але ўсё гэта кажа, галоўным чынам, аб росьце сельскай гаспадаркі ў колькасьці. У далейшым можна спадзявацца, што будзе яшчэ большае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і будзе больш зьвернута ўвагі на якасьць нашых с.-г. продуктаў. Цяпер у нас павінна стаць на першым месцы барацьба за якасьць продукцыі.

Гэта ў першую чаргу будзе датычыць паляводзтва, дзе трэба зрабіць замену нашага малапродукцыйнага, дробнага насеньня, палепшаным, сартовым насеньнем. Зьмену гэту трэба зрабіць як найхутчэй, бо калі поле будзе засявацца сартовым насеньнем, то павялічацца і ўраджаі. Даныя расійскіх і замежных дасьледчых станцый сьведчаць аб павялічэньні ўраджаяў у сярэднім на 20 проц. ад засеву сартовым насеньнем, якое падыходзіць да мясцовых умоў. Гэта знача, што калі дзесяціна пасеву давала там 50 пуд. зярна, то пры замене сартовым насеньнем дае 60 пуд.

Замену звычайнага насеньня сартовым трэба рабіць арганізаваным парадкам. Калі адзін селянін пасее на сваёй паласе сартовае жыта а сусед яго засее простае, то сартовае жыта за некалькі год зьвядзецца ад скрыжованага апылкаваньня*).

Каб сартовае насеньне так хутка ня зводзілася, сялянам патрэбна цэлымі селішчамі ці даволі вялікімі аб'яднаньнямі сеяць такое насеньне. Дзеля гэтага неабходна арганізаваць насеннаводныя таварыствы, якія будуць паляпшаць насеньне. Гэтыя таварыствы могуць паляпшаць рознае насеньне, або якое-небудзь адно.

Цяпер ужо арганізавана некалькі насеннаводных таварystваў. Па даных Белсельсаюзу, у яго лічацца членамі насеннаводныя таварыствы два Менскай акрузі, адно Бабруйскай акругі і адно Магілеўскай.

Некаторыя з гэтых насеннаводных таварystваў, як напрыклад, Магілеўскае, маюць ужо даволі значную плошчу пад пасевамі палепшанага насеньня (гл. таб.).

Пасевы ў Магілеўскім насеннаводным т-ве за 1925 г.

| №№ па парадку | НАЗВА РАСЬЛІН | Сорт | Дзес. | Ураджай на 1 дзес. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Жыта . . . . . . . | Пробштэйнскае . | 3 | 60 пуд. |
| | „ . . . . . . | Іванаўскае . . | 17 | |
| | „ . . . . . . | Петкускае . . | 3 | |
| | „ . . . . . . | Шампольскае . | 2,5 | |
| 2 | Авёс . . . . . . . | Эха . . . . . | 89 | 65 „ |
| 3 | Ячмень сэлекцыйны . . . | | 451 | — |
| 4 | Зімовая пшаніца . . . | Высока-літоўская | 12 | 80 пуд. |
| 5 | Лубін сіні . . . . | | 46 | 80 „ |
| 6 | Канюшына . . . . | | 85 | 10 „ |
| 7 | Выка . . . . . . . | Мясцовая . . . | 12 | 55 „ |

Акрамя таго, насеннаводныя таварыствы могуць арганізаваць такі пункт, дзе ачышчаюць зярно і сартаваньнем палепшваюць насеньне, засяваючы толькі лепшы, першасортны матэрыял.

---

*) Гл. „Плуг" № 9, 1925 г., Рэго „Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа".

Пераходзячы да пытаньня аб сартох, якія маюцца ў Беларусі, трэба сказаць, што выведзеных сартоў палявых расьлін у Беларусі амаль няма. Нашы дасьледчыя ўстановы яшчэ не займаліся гэтым пытаньнем. Большай часткаю да нас прывозілася сартовае насеньне з Польшчы, Нямеччыны, Прыбалтыкі і др. месц памешчыкамі ў свае маёнткі і ад іх яно вельмі мала пашыралася ў сялянскіх гаспадарках. Дзеля таго-ж, што і сартовае насеньне з бегам часу ад скрыжованага апылкаваньня, дрэннага поля і інш. зводзілася, то зразумела, што за апошнія 10 год гэта сартовае насеньне саўхозаў ужо зьвялося. Але гэты пасяўны матэрыял саўхозаў, значна лепшы чым наша простае насеньне і дае большы ўраджай і лепшае якасьці, чым мясцовае насеньне. Акрамя таго, насеньне саўхозаў прыстасавана ўжо да нашых мясцовых умоў; зразумела, што яно павінна пашырацца ў сялянскіх гаспадарках.

На гэтым чыстасортным насеньні саўхозаў, Белсельтрэсту мы зараз застановімся, паказваючы іх ураджаі. Аднак называць будзем „сартамі“ з паказаным абмежаваньнем.

Сарты жыта, якія разводзяць саўхозы Белсельтрэсту па даных 1925 г.

| Назва жыта | Плошча ў дзес. | Сярэдні ўраджай з 1 дз. | Акругі | Назва саўхозаў |
|---|---|---|---|---|
| Петкускае . . | 226 | 70,6 | Менск. і інш | Зазерра, Кухціцкая гр. |
| „ . . . | 218 | — | Аршанская | Бабініцк. гр., Высокае, Межава і інш |
| Пробштэйнскае . | 221 | 96 | „ | Леніна |
| „ . | 75 | — | Менская | Смалявічы, Навасёлкі, Новы Двор і інш. |
| „ . | 71 | 94 | Слуцкая | Пагост |
| Іванаўскае . . | 386 | 105,3 | „ | Івань |
| „ . . . | 128 | 88,8 | Магілеўск. | Буйнічы |
| | | 68,3 | „ | Дашкаўка |
| | | 64 | „ | Лутчыцы |
| | | 44,5 | „ | Грудзінаўка і інш. |
| Шацкае . . | 945 | 89 | Менская | Вязынская група |
| | ва ўсіх раён. | — | „ | Лагойская, Нова-Зел[illegible]коўск. гр. і інш. |
| | | 85 | Слуцкая | Баранчыцы |
| Трасьніковае . | 43 | 86,8 | „ | Старчыцы і др. |
| „ | — | 130 | Менская | Савічы |

Сарты аўса, якія разводзяць у саўхозах Белсельтрэста па даных 1925 г.

| Назва сартоў | Плошча ў дзес. ва ўсіх саўхозах | Сярэдні ураджай ў саўх. на 1 дз. ў пуд. | Акругі | Назва саўхозаў |
|---|---|---|---|---|
| Ш вэдзкі . . | 509 | — | Менская | Кухцічы, Сёмкава і др. |
| „ . | — | 95,6 | Аршанская | Станіслававa |
| „ . | — | 63 | „ | Холаўе і др. |
| Шацілаўскі . . | 1169 | 63 | Бабруйская | Бацэвічы |
| „ . . | — | 60 | Віцебская | Мазалава |
| „ . . | — | — | Барысаўск. | Палелюм |
| „ . . | — | 68 | Менская | Такарня |
| „ . . | — | — | „ | Блонь, Зазерра і др. |
| Эха . . . | 330 | 80 | „ | Дукорская група |
| „ . . . | — | 68,5 | „ | Вязынская „ |
| „ . . . | — | — | „ | Саламарэцкая, Блоньская гр. |
| „ . . . | — | — | Аршанская | Леніна |
| Пабеда . . | 20 | — | „ | Холаўе |
| Залаты дождж . | 279 | — | „ | У розных саўхозах |
| Лейцэвіцкі . | 9 | — | „ | „ „ |
| Гэралецкі . . | — | — | Бабруйская | Турская дасьл. станцыя |

*Сарты ячменю.* Сартоў ячменю ў нас мала. Прывезены ў 1925 г. з Чэхаславакіі піваварны ячмень (двухрадковы) ня ўсюды ўдаўся. Галоўнай прычынай яго няўдачы была сухая вясна 1925 г. У некаторых мясцох, напрыклад, у саўхозе Зазерра Менскай акругі, гэты ячмень даў у сярэднім 116 пуд. зярна на дзес., у саўхозе Станіслававa Аршанскай акругі ён даў 90 пуд. на дзес., у саўхозе Рыльля Слуцкай акругі—96 пуд. на дзес., а ў другіх мясцох ураджай быў меншы.

Для броварнай прамысловасьці гэты сорт цікавы.

*Сарты зімовай пшаніцы.* З сартоў зімовай пшаніцы ў нас пашыраны галоўнычынам адзін сорт—*высока-літоўскі.* Гэты сорт разводзяць у саўхоз Леніна, Сабалёва і Станіслававa Аршанскай акругі, у саўхозе Дашкўка Магілеўскай акругі. Ураджай гэтай пшаніцы ў 1925 г. быў д 98 да 120 пуд. з дзес. Яна ўжо даўно прыстасавалася да ўмоў Беларусі і заслугоўвае ўвагі нашага сялянства.

Цяпер коратка скажам аб тых мерапрыемствах, якія неабходны ў нас для палепшаньня насеньня і павялічэньня нашых ураджаяў у далейшым.

1. Трэба організаваць шырокую сетку насеннаводных таварыстваў для палепшаньня свайго насеньня і засяваць палепшанае сартовае насеньне цэлымі селішчамі.

2. Організаваць новыя і на ўсе 100 проц. скарыстаць старыя зерначысьцільныя пункты; сеяць толькі першасортным ачышчаным зярном.

3. Купляць ці абменьваць сялянскае насеньне на палепшанае насеньне саўхозаў.

4. Купляць палепшанае насеньне, галоўным чынам у коопэрацыі, Цэнтраземскладзе і яго аддзяленьнях і інш. дзяржаўных організацыях.

5. Пашырыць працу па контролю насеньня.

У гэтым годзе пачынаецца праца па вывядзеньню новых сартоў насеньня на Горацкай дасьледчай станцыі. Дзеля гэтага трэба скарыстаць той цэнны мясцовы насенны матэрыял, які ёсьць у нас у Беларусі. Гэта насеньне, як больш прыстасаванае да ўмоў Беларусі, можа быць добрым матэрыялам для вывядзеньня новых цэнных сартоў.

Вельмі цікава, каб аб кожным цэнным сорце сяляне пісалі ў часопіс „Плуг“, а на дасьледчыя станцыі пасылалі-бы пробы.

**М. Савіцкі.**

---

# Аб сартох канюшыны.

*(З досьледаў Я. Мароза)*

Цяпер, калі мы купляем канюшыну ў коопэрацыі, то не заўсёды ведаем, адкуль прывезена насеньне і якога яно сорту. У маёй гаспадарцы ёсьць тры сарты канюшыны; дзеля сябе прышлося называць іх так: 1) аднаўкосная, 2) двухукосная і 3) трохукосная.

Але чытаючы журнал „Сам сабе агроном“ (№ 11—25 г.), я прачытаў артыкул агронома А. А. Зубрыліна аб пародах канюшыны, дзе ён піша: „У Расіі вядомы галоўным чынам тры пароды канюшыны— а) *пермская*, або ўральская, б) *паўднёвая*, або кіеўская і в) *сярэдняруская*, або арлоўская“.

Зубрылін апісвае гэтыя сарты. Згодна яго апісаньню, у мяне якраз аказаліся ўсе гэтыя тры сарты. Канюшыну сею ўжо даўно і цяпер мо' будзе на часе падзяліцца сваімі назіраньнямі над красаваньнем канюшыны з чытачамі „Плуга“.

У нашых старых агрономаў ды і ў гаспадароў, якія займаліся пасевам канюшыны на насеньне, ёсьць назіраньні, што добры ўраджай насеннай канюшыны бывае толькі ў тым годзе, калі лета сваёй цёплай пагодай спрыяе разьвіцьцю шмялёў. Бачучы гэта, яны застаўлялі на насеньне канюшыну другога ўкоса, каб красаваньне канюшыны супадала з тым часам, калі значна размножацца шмялі (ліпень—пачатак жніўня).

Я штогодна вясною раблю назіраньні за жоўтай акацыяй (у час яе красаваньня), як многа ці мала на ёй бывае шмялёў; па іх ліку ўжо можна даведацца, як прашла для іх зіма. Трэба ведаць, што ў час красаваньня акацыі кожны шмель выяўляе з сябе толькі самку (матку), якая заплоднена ў мінулым леце, а цяпер адна заводзіць сям'ю пакуль ня выйдуць рабочыя шмялі. Вось чаму ў час красаваньня акацыі кожны шмель можа лічыцца, як шмялінае гняздо.

Лета 1923 году было ў нас мокрае і халоднае і мала спрыяла разьвіцьцю шмялёў, а вясною 24 г. шмялёў можна было бачыць вельмі мала. Зіма-ж 1924/25 г. была ўжо лёгкая і вясною на акацыі можна было бачыць надзвычайна многа шмялёў.



1. *Пермская, ці ўральская канюшына* расьце да 2-х аршын, але яшчэ да красаваньня палягае і ніжнія яе лісточкі хутка падгніваюць. Аднак, канюшына расьце вялікай і касіць яе цяжка. Але з гэтай бядою, як казаў мне адзін агроном-латыш, у Латвіі спраўляюцца вельмі проста. Папершае, за канюшынаю наглядаюць, і калі яна пачынае вылягаць, то сярод поля з канюшынай ставяць кол, бяруць каня, і к гужам хамута прывязваюць 2-х сажнёвую жэрдку, якую ад кала і пачынаюць цягаць па канюшыне ўкругавую. Канюшына кладзецца толькі ў адзін бок і, калі закрасуе, яе лёгка можна скасіць машынаю. Гэта канюшына лічыцца добрай; у сухую вясну зацьвітае толькі ў канцы чэрвеня, але ў нас насеньня з яе можна мець рэдка *(большасьць галовак—пустацьвет)*. Насеньня з галовак гэтай канюшыны бывае мала і часта пакідаць яе на насеньне нясходна. Красаваньне яе вельмі блізка зьвязана з шмялямі. Я з насеньнем раблю так: калі яно добра ўродзіцца, то я застаўляю яго для пасеву гады на тры.

У 1924 г. гэта канюшына мела амаль адзін пустацьвет. У мінулым 25 г., калі было шмат шмялёў, канюшына дала добры ўраджай насеньня. Канюшына дае адзін укос.

2. *Паўднёвая*, або *кіеўская канюшына.* Па росту каля аршыну (да 20 вярш.). Расьце добра, красуе рана, у пачатку чэрвеня. Пасьля ўкосу хутка адрастае атава. Калі першы ўкос быў у пачатку красаваньня, то можна мець тры ўкосы ў год.

Калі з восені глыбокія слаі глебы бываюць вільготнымі, то насеньня гэтай канюшыны можна мець і ад першага ўкосу. Але часьцей насеньне гадуецца з другога ўкосу, як гэта рабілася да вайны ў панскіх маёнтках. Дзеля нашага Лепельскага раёну гэты сорт, як насенны, трэба лічыць найлепшым.

У 1924 г. з гэтым сортам канюшыны была цікавая зьява. У 1923 г. гэта канюшына была падсеяна пад жыта. Да восені яна добра парасла, часткаю стала красаваць. Гэта лета было мокрым і спрыяла росту канюшыны. Глеба была вільготнай. Вясною-ж 24 г. у час, калі сходзіў сьнег, зямля была малапрамёрзлай і таксама шмат вільгаці набіралася ў глыбокіх слаёх поля. З вясны 1924 году канюшына хутка пашла ў рост. На пясковым вучастку поля, дзе канюшына была горшай, яе затавілі на насеньне. У час красаваньне гэтай канюшыны, на ёй можна было бачыць шмат пчол. Калі-ж галоўкі адцьвіталі, то яны былі поўнымі насеньня.

Красаваньне паўднёвай канюшыны пачалося каля першага чэрвеня. Пятага чэрвеня яна была скошана на сена (апрача насеннай). Пасьля першага ўкосу хутка пашла расьці атава. Праз нейкі час закрасавала і атава. На красуючай атаве зноў зьявіліся пчолы і менш шмялёў. Атава дала поўныя галоўкі. З 2-х дзес. насеннай атавы было намалочана 40 пуд. насеньня. Такім чынам, гэты раньні сорт канюшыны даў насеньня, як с першага, так і з другога ўкосу.

Акрамя мяне, і другія гаспадары, у каго гэта канюшына пакідалася на насеньне, бачылі на ёй пчол. Таксама наглядаў пчол на канюшыне і адзін пчаляр-практык. Пчолы, зьбіраючы мёд на канюшыне, спрыялі яго запладненьню.

Пры аднолькавых умовах красаваньня два сарты канюшны, *пермскі* (уральскі) і арлоўскі (сярэдня-рускі) далі амаль адзін пустацьвет. Выходзіць, што *паўднёвая* або кіеўская *канюшына* была заплоднена пчоламі, бо шмялёў амаль ня было.

1925 г. быў самы неспагадным для канюшыны. Восень 24 г. была сухая. Глеба мела мала вільгаці з восені. Наступная зіма—цёплая. Канюшына вышла з зімы хаця і добра, але вясна была сухою і няспрыяла росту канюшыны. Першы ўкос з дзесяціны даў 5-7 воз. Была надзея на другі ўкос, які быў ужо лепшым.

З першага ўкосу заставілі палоску на насеньне. Хаця тут канюшына вырасла і красавала, але на ёй ня было пчол. Глыбокія слаі глебы былі сухімі і цьвяткі канюшыны ня мелі мёду. Шмялёў-жа ў пачатку чэрвеня было яшчэ мала. І вось на гэтай палосцы і быў толькі адзін пустацьвет. Але другі ўкос канюшыны даў ужо поўныя галоўкі насеньня. Яго запладненьню спрыялі шмялі, якіх было ўжо шмат.

Паўднёвая канюшына—гэта раньні сорт. Прыборка яе бывае-рана. Другі ўкос часта захватваюць асеньнія дажджы.

3. *Арлоўская* (сярэдня-руская) *канюшына*. На добрай зямлі рост яе дасягае $1^1/_2$ арш. Красуе каля 10 чэрвеня. Першы ўкос бывае большы па масе, чым паўднёвай канюшыны. Атава расьце горш, хаця вырастае і добра. Насеньне дае незаўсёды, бо яго запладненьне залежыць ад шмялёў. У 1925 г., калі было шмат шмялёў, гэта канюшына дала добрую завязь насеньня. У тым-жа годзе на насеньне было застаўлена 1 дзес.другога ўкосу. У канцы верасьня яе скасілі, але зацяжныя дажджы недазволілі прыбраць яе ў час. Насеньне ў галоўках прыгніло. Канюшыну прышлося скарыстаць толькі як подсьціл.



Алоўская, Пермская, Кіеўская канюшыны.

Па кармавой вартасьці я лічыў-бы лепшай арлоўскую (сярэдня-рускую) канюшыну. Але тут справа горшая з насеньнем. Пакуль насеньне будзе дарагім, напэўна трэба даваць перавагу паўднёвай (кіеўскай) канюшыне. Што належыць да трываласьці гэтых сартоў канюшыны супроць марозаў, то ў першы год канюшына ніколі не вымярзае ў нашых умовах (усе сарты). На другі-ж год, калі зіма бывае маласьнежная, то вымярзаюць усе тры сарты. Каля 10 год таму назад у мяне вымерзла 3 дзес. пермскай (уральскай) канюшыны. Усе 3 сарты канюшыны (арлоўская, пермская і паўднёвая) паказаны на малюнку. Вясною 25 г. дзеля вопыта пасеяў 5 фунт. сярэдня-рускай канюшыны з саўхозу Сухадоль (Тульскай губ.).

**Я. К. Мароз.**

(Гаспадарка Фатынь).

# Аб шматпольлі ў 1925 годзе.

Трохпалёўка патрабуе ад гаспадаркі досыць значнай кармовай плошчы, каб забясьпечыць кармамі скаціну, якая дае гной. Цяпер дасьледавана, што для таго, каб ураджаі гаспадаркі ня зьніжаліся, гаспадарцы патрэбна мець на кожную дзесяціну пахаці 1-1,5 дзес. сенажаці. Але гаспадарак з такімі суадносінамі пахаці да сенажаці мала. Большасьць жа гаспадарак сенажаці мае значна менш і яны былі прымушаны пачаць сеяць травы ў папарным полі.

З гэтага часу і трэба лічыць, што мы больш ня маем тыповай трохпалёўкі. Ужо к часу імпэралістычнай вайны ў такіх раёнах, як Меншчына і Случчына, большасьць сялян мела ўжо добрае сена ад канюшыны альбо выкі, якія сеялі ў папары. Часта ў папары сеялі бульбу і нават кармовыя буракі. Той жа трохпалёвы севазварот, у якім ужываецца канюшына альбо выка з аўсом, можна назваць *палепшанай трохпалёўкай,* ад якой толькі адзін крок да правільнага шматпольля.

Але пры ўвядзеньні севазвароту патрэбна дапамога агронома, каб абраць тып севазвароту і разьмеркаваць зьмены. Але да вайны і рэволюцыі селянін гэтага агронома ня бачыў.

У часе вайны і рэволюцыі сельская гаспадарка яшчэ больш заняпала. І толькі 1922 гаду Савецкай уладай распачынаецца праца землеўпарадкаваньню, утвараюцца лепшыя формы землякарыстаньня—пасёлкі, а разам з імі і пераход да шматпольных севазваротаў

Ужо ў 1924 г. імкненьне сялянства да ўвядзеньня шматпольных севазваротаў настолькі вялізарна, што поруч з організацыяй пасёлкаў ідзе праца і па пераводзе гаспадарак на шматпольле. Мы бачым, як цэлыя вёскі Аршанскай акругі з дапамогай агронома ўводзяць агульна—грамадзкія шматпалёвыя севазвароты. Каб уявіць, якім тэмпам ідзе праца па ўвядзеньню шматпольля, прывяду лічбы па пераводу гаспадарак на шматпольле ў 1924 і 25 г.

| НАЗВА АКРУГІ | Лік пасёлкаў і вёсак | | Лік хутароў і атрубоў | | Лік колхозаў | | Плошча пахалі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1924 г. | 1925 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1924 г. | 1925 г. |
| Менская | 50 | 91 | 31 | 44 | 12 | 11 | 4.904 | 8.874 |
| Барысаўская | 4 | 69 | 51 | 82 | 1 | 14 | 1.338 | 9.764 |
| Бабруйская | 28 | 111 | 2 | 89 | — | 64 | 1.753 | 12.463 |
| Слуцкая | 28 | 108 | 15 | 83 | 4 | 3 | 2.158 | 6.957 |
| Мазырская | 6 | 2 | — | 87 | 10 | — | 28.462 | 756 |
| Віцебская | — | 48 | 96 | 500 | — | 18 | 1.056 | 6.904 |
| Полацкая | 8 | 51 | 65 | 188 | — | 20 | 1.288 | 5.826 |
| Аршанская | 53 | 80 | 267 | 411 | 19 | 19 | 1.2462 | 15.954 |
| Калініская | 52 | 103 | 79 | 155 | 22 | 25 | 9.343 | 13.749 |
| Магілеўская | 84 | 174 | 201 | 108 | 16 | 11 | 10.376 | 18.831 |
| УСЯГО | 313 | 837 | 804 | 1690 | 84 | 182 | 47.520 | 100.088 |

З даданай табліцы відаць, што ў 1925 годзе праца па пераводу на шматпольле значна пашырылася, а ў параўнаньні з 1924 годам гэта плошча павялічвалася на 110 проц. Агульная плошча, якая пераве-

дзена на шматпольле ў 1925 г., складае 100.088 дзес. Канчаткова-ж яна замацуе сваё шматпольле толькі з вясны 1926 г., калі будзе падсявацца канюшына.

*Тыпы севазваротаў*, якія абіраюць сяляне розныя (4-5-6-7 і 8-польныя). Больш-жа ўсяго ўжываюцца 4-х польны—1) жыта, 2) бульба. 3) ярына і 4) канюшына, бо сяляне звыкліся з малым лікам зьмен, але ў гэтым бяда невялікая. Праз некалькі год, калі сялянства ўбачыць карысьць ад шматпольля, тады яно з гэтага 4-х польля лёгка пяройдзе да 8-мі гадовага чаргаваньня расьлін. З іншых севазваротаў трэба назваць яшчэ пяці і шасьціпалёвы. Менш пашыраны сяміпалёвы.

У мінулым 1925 г. было зроблена і абследаваньне тых севазваротаў, якія закладзены 1923 і 1924 г. [1]). Гэта абсьледаваньне пакамала, што севазвароты ўводзяцца ня поўнасьцю. Таксама сустракаюцца адзінкі—гаспадары, якія няпоўнасьцю засяваюць канюшынную зьмену, бо ім цяжка дастаць насеньня канюшыны. Наогул, патрэбна адзначыць, што галоўнымі прычынамі, якія перашкаджаюць хуткаму ажыцьцяўленьню шматпольля, гэта 1) немагчымасьць бядняцкім гаспадаркам сваячасова набыць насеньне канюшыны; 2) высокая цана на насеньне канюшыны (да 25 руб. пуд.), і 3) спустошанасьць поля, на якім не заўсёды ўдаецца канюшына. Аднак, ня гледзячы на кароткі час існаваньня шматпольных севазваротаў, вынікі ўжо ёсьць. Гаспадаркі пры шматпольлі, па словах вучастковых агрономаў і самых сялян, маюць ураджаі ў 60-70 пуд., а некаторыя да 100-120 пуд. з дзес.

Цяга да шматпольля ў мінулым годзе дае магчымасьць Наркамзему паставіць для 1926 г. значна большую плошчу, на якой будуць закладацца шматпольныя севазвароты.

**П. Заяц.**

---

# Аб даходнасьці расьлін.

Экономічныя, прыродныя і іншыя ўмовы прымушаюць гаспадара высяваць не адну-дзьве расьліны, а некалькі. Папершае, прымушае яго к гэтаму патрэба сям'і ў спажыцьці розных расьлін, патрэба ў розным корме для жывёлы і г. д. Падругое, калі-б гаспадар высяваў адну-дзьве расьліны, у яго ніколі не хапала-б працы ў той момант, калі трэба апрацоўваць глебу, сеяць і прыбіраць гэтыя расьліны. Вось чаму гаспадар высявае розныя расьліны і галоўным чынам дзьве групы іх: азімыя і яравыя. Разьмеркаваньне працы пад гэтыя групы працякае па месяцах па рознаму.

На 1 дзес. патрэбна мужчынскіх дзён па месяцам (сярэдн. па Беларусі):

| | Красав. | Травень | Чэрв. | Ліпень | Жнів. | Верас. | Каст. | Лістап. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зімов. расьліны | 0,42 | 0,28 | 2,81 | 8,64 | 9,45 | 3,76 | 3,87 | 4,24 | 33,47 |
| Яравыя . | 5,30 | 5,0 | 0,70 | 0.55 | 6,66 | 4,35 | 3,09 | 8,57 | 34,22 |

---

[1]) М. Лайкоў. „Аб складаньні пераходных табліц пры пераходзе гаспадарак на шматпольле". Выд НКЗ 1926 г.

Мы бачым, што ў першыя два месяцы пад зімовыя расьліны траціцца зусім мала працы, пад яравыя наадварот—больш у некалькі раз (пасеў); у чэрвені і ліпені траціцца працы больш пад зімовыя, чым пад яравыя. У апошнія-ж месяцы праца ўжо разьмяркоўваецца амаль што роўна.

У групу яравых у нас увашлі расьліны: *ярыца, яравая пшаніца, авёс, ячмень, грэчка, проса, боб і гарох*; але акрамя гэтага ў гаспадарцы высяваецца яшчэ бульба, лён, каноплі, травы і інш. Разьмеркаваньне працы пад гэтыя расьліны бывае такім, што ў тыя месяцы, калі траціцца больш усяго працы пад бульбу, то пад лён, каноплі, травы і зярновыя яравыя траціцца менш. Так, напрыклад, траціцца на 1 дзес. мужчынскіх дзён па месяцох у сярэднім па Беларусі.

| | Красав. | Травень | Чэрв. | Ліпень | Жнів. | Верас. | Каст. | Лістап. | Усяго. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бульба . | 13,19 | 15,13 | 7,1 | 2,11 | 2,58 | 35,23 | 1,92 | 0,12 | 77,38 |
| Лён і каноплі . . | 5,86 | 8,78 | 19,99 | 0,07 | 21,56 | 30,1 | 40,96 | 19,25 | 146,57 |
| Сеян. травы. | 2,86 | 1,43 | 1,32 | 6,78 | 2,65 | 1,85 | 1,54 | 0,85 | 19,28 |

Высяваючы розныя расьліны, гаспадар запас працы сваёй сям'і скарыстоўвае больш-менш аднолькава на працягу ўсіх месяцаў. Але, бязумоўна, бываюць месяцы, калі ўсе расьліны патрабуюць многа працы, напрыклад, у верасьні; гэта крытычныя месяцы.

Такім чынам, гаспадар прымушаны высяваць розныя расьліны, але ня ўсе яны даюць аднолькавы прыбытак і таму гаспадар павінен старацца абраць такія з іх, якія даюць найбольшы прыбытак і разьмеркаваньне працы пад якія адбываецца больш-менш аднолькава на працягу вясны, лета і восені.

Мы разгледзім прыбытак у сярэднім па Беларусі ад чатырох галоўных расьлін *жыта, аўса, бульбы і лёну.* *)

Прыбытак завецца агульным, калі ацэньваюцца ўсе атрыманыя продукты ад расьліны (зярно, салома, мякіна і г. д.) і ўмоўна-чыстым, калі з агульнага прыбытку вылучаецца каштоўнасьць насеньня, угнаеньня, апрацоўкі глебы, прыборка ўраджаю і наогул усе выдаткі па вырашчваньню расьліны. **) Усё гэта адлічваецца з агульнага прыбытку (напрыклад, з ураджаю) і завецца выдаткамі на вытворчасьць (усе расходы, пакуль атрымаецца ўраджай). Да іх трэба было-б дадаць яшчэ кошт працы людзей, патрачанай на расьліны, але яе цяжка ацаніць і таму яна не ацэньваецца і з агульнага прыбытку ня вылічваецца; дзякуючы гэтаму і прыбытак завецца *ўмоўна-чыстым.*

| | Агульнага | Умоўна-чыстага | Выдаткі на вытворчасьць |
|---|---|---|---|
| Азімае жыта . . . . | 75,34 | 46,19 | 29,15 |
| Авёс . . . . | 81,09 | 53,99 | 7,10 |
| Лён . . . . | 10 ,84 | 74,22 | 26,62 |
| Бульба . . . . | 174,81 | 98,31 | 76,50 |

*) Усе вылічэньні ўзяты з досьледаў НКЗ сялянскіх гаспадарак у 1923/24 г.

**) У тым ліку ўсе грашовыя выдаткі на рамонт с.-г. машын і прыладаў, будынкаў і г. д.

З 1 дзес. атрымоўвалася прыбытку ў жытніх адзінках.***)

Найбольш прыбытковай расьлінай зьяўляецца бульба. Выдаткі на яе вытворчасьць ад агульнага прыбытку складаюць 43,7 проц. у той час, як для лёну—26,3 проц., для аўса—38,6 проц. і для жыта—33,4 проц. Такі высокі процант выдаткаў на вытворчасьць у бульбы тлумачыцца тым, што пад яе кладзецца угнаеньне, якое вельмі рэдка кладзецца пад лён ці авёс і ў параўнаньні з усімі расьлінамі бульба патрабуе больш конскай працы, што таксама павялічвае выдаткі на вытворчасьць.

На другім месцы па прыбытковасьці стаіць лён. Асабліва ён прыбытковы ў параўнаньні з аўсом, бо процант выдаткаў на вытворчасьць апошняга куды вышэй, чым для лёну. І мы ўжо бачылі, што праца пад лён галоўным чынам прыпадае на вясну і восень. Разьмеркаваньне яе па месяцах больш спрыяе аднолькаваму скарыстаньню працы на працягу году. Адсюль можна зрабіць вынік, што лепш сеяць лён, чым авёс; але гэта не заўсёды будзе правільна, бо авёс патрэбен для корму жывёлы і гаспадарка ня можа абыйціся бяз яго. Яна павінна высяваць авёс толькі для сваіх патрэб, а не на продаж. Бязумоўна, у далейшым гаспадарка можа і зусім адмовіцца ад пасеву аўса і будзе купляць яго для сваіх патрэб.

Як бачым, лён больш прыбытковы чым і жыта, але лён у горшых умовах з разьмеркаваньнем працы па месяцах і таму ня можа пашырацца замест зьмяншэньня плошчы жыта. Тут таксама патрэбна заўважыць, што калі высяваць на продаж жыта ці лён, то перавагу трэба даць лёну, бо ён дае значна больш прыбытку, чым жыта і процант выдаткаў яго на вытворчасьць меншы.

Цяпер спынімся на аплаце рознымі расьлінамі людзкой працы, якая на іх траціцца. Для гэтага падзелім умоўна-чысты прыбытак ад расьлін на лік дзён, патрачаных на іх вырашчваньне; бачым, што 1 дзень працы затрачанай—

| | | | |
|---|---|---|---|
| на лён у сярэднім | аплачваецца ў | 0,44 | жытн. адзін. |
| „ бульбу | „ | 1,30 | „ |
| „ жыта | „ | 1,40 | „ |
| „ авёс | „ | 1,63 | „ |

Найбольш высокая аплата ў аўса, жыта, бульбы і на апошнім месцы стаіць лён. Тлумачыцца гэта тым, што больш усяго патрабуе працы лён, затым бульба, жыта і менш усяго авёс. Гэту аплату трэба мець на ўвазе і асабліва тады, калі ў сваёй гаспадарцы не хапае працоўнай сілы і яе трэба наймаць.

Такім чынам, гаспадар павінен пры організацыі сваёй палявой гаспадаркі мець на ўвазе, што ня ўсе расьліны даюць аднолькавы прыбытак, ня ўсе яны патрабуюць аднолькавай працы па месяцах і па рознаму аплачваюць працу. Ён павінен выбіраць такія расьліны, якія найбольш рэнтабельны, г. зн. пры ўсіх роўных умовах (пры аднолькавым здавальненьні сям'і, скаціны, з аднолькавым разьмеркаваньнем працы па месяцах і г. д.) даюць найбольшы прыбытак. Пры такіх (рэнтабельных) расьлінах выдаткі на вытворчасьць найменшыя і на рынку на іх заўсёды ёсьць попыт і г. д. Трэба гэта мець на ўвазе і агроному пры ўвядзеньні шматпольных севазваротаў, каб уводзіць севазварот толькі тыя расьліны, якія найбольш адказваюць усім умовам гаспадаркі.

**У. Шыцькоўскі.**

***)Жытная адзінка—1 пуд. жыта.

# Торф, як подсьціл для жывёлы.

Я думаю, што шмат якія сельскія гаспадары памятаюць ні адзін год, калі скаціну вясной даводзіцца падкармліваць ня сенам, а рэзкай з саломы, ды бывае што і рэзку няма з чаго рэзаць. Аб подсьціле-ж для скаціны і гаварыць няма чаго.

Ад недастачы подсьцілу ў хлеве, як вядома, бывае менш гною, а жывёла прастужваецца і хварэе.

Між тым, ёсьць магчымасьць захаваць салому на корм, калі на подсьціл скарыстоўваць замест саломы торф.

У БССР ёсьць шмат імшарных балот, якія пакрыты белым мохам, журавінамі, багульнікам, падбелам, верасам і інш. На аднэй дзесяціне такога балота па досьледах Горацкага вопытна-асушальнага вучастку кожны год нарастае каля 420 пуд. сухога моху. Сьцяблы моху кожны год згніваюць і ўтвараюць імшарны торф.

На подсьціл скаціны лепш усяго скарыстоўваць верхні насьціл імшарных балот. Торф у гэтым насьціле пульхны, нязгніўшы і добра ўцягвае ў сябе ваду. Адзін фунт такога торфу ўцягвае ў сябе 12-15 ф. вады; адзін-жа фунт саломы ўцягвае 4 фун. вады.

Здабываць тарфяны подсьціл можна проста рукамі, зьдзіраючы яго, як гэта робяць сяляне пры загатоўцы моху на пракладку і канапатку новых будынкаў.

Але ёсьць яшчэ лепшы спосаб здабываньня подсьцілу. Імшарнае балота асушваюць адкрытымі канавамі, верхні насьціл балота разграбаюць жалезнымі граблямі або матыкамі і потым, пасьля прасушкі, гэты торф зграбаюць і звозяць у хлеў.

Калі плошча балота невялікая і трэба з яе атрымаць шмат торфу, то лепш не зграбаць яго з паверхні, а вырэзваць рыдлёўкай пліткі торфу, якія тут-жа на балоце сохнуць і потым звозяцца пад павець.

Перш, чым скарыстоўваць пліткі для подсьцілу, іх трэба пакрышыць і скарыстоўваць толькі ў сухім відзе.

Пад ногі жывёле трэба пасыпаць яго слоем у 3-4 вяршкі; калі гэткі подсьціл ужываецца першы раз, то трэба торф зьверху прысьцілаць тонкім слоем саломы, каб паступова прывучыць жывёлу к новаму подсьцілу.

Як толькі верхні насьціл подсьцілу ўтопчацца, трэба пасыпаць новы слой торфу.

Тарфяны подсьціл лічыцца лепшым чым салома: ён мякчэй саломы і многа ўцягвае вады і карысцых для поля і шкодных для жывёлы газаў.

Гной з тарфянога подсьцілу бывае добрай якасьці: ён больш аднастайны і драбней саломянага; добра заворваецца і ўраджай ад тарфянога гною бывае лепшы.

Напрыклад, досьледы Запольскай дасьледчай станцыі (Ленінградзкай губ.) далі такія вынікі:

| №№ дзялянак. | Угнаеньне. | Колькасьць угнаеньня на дзес. | Ураджай жыта ў пуд. на дзес. | Розьніца ўраджаю на 1 дзес. супроць няўгноенай дзялянкі. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Гной саломяны. . | 2400 пуд. | 56 п. | 32 пуды. |
| 2 | Гной з торфу. . . | 2400 „ | 78 „ | 54 „ |
| 3 | Без угнаеньня . . | — | 24 „ | — |

Акрамя таго, гной з тарфянога подсьцілу, як паказалі досьледы, мае лепшы ўплыў і на ўраджай наступных расьлін.

**Х. Пісаркоў.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Хаваньне гною пры зімовай вывазцы.

*(Хут. Сарачынава, Пухавіцкага раёну).*

Вельмі часта селяніну цяжка ўправіцца вясною з вывазкаю гною, а часам і летняя вывазка бывае цяжкай. Пры далёказямельлі сяляне вельмі часта падрыхтоўваюць зямлю пад жыта як папала, зусім не вывозячы гною. З адным канём незаўсёды можна ўправіцца вывезьці гной на далёкае поле. У такіх умовах гной можна вазіць зімою. У гэты час і людзі, і коні больш вольныя, ды і воз можна накласьці большы, чым летам.

Вазіць гной зімою трэба ў вялікія кучы, добра ўтаптваючы яго, а вясною засыпаць зямлёю. Дзеля гэтага трэба ачысьціць месца для кучы гною. Першы воз гною трэба разаслаць тонкім слоем і добра ўтаптаць. Прывёзшы-ж другі воз, трэба праехаць з ім па раней раскіданаму гною, каб яшчэ больш утаптаць. Так робяць з кожным возам, скідаючы тонкімі пластамі гной і добра яго ўтаптваючы. Калі куча будзе гатова, яе раўнуюць зьверху і з бакоў і так застаўляюць да вясны.

Вясною той гной, які прызначаецца пад бульбу і корняплоды, растрасаюць па полі і садзяць бульбу ці сеюць корняплоды ў той-жа дзень. Гной-жа, які пойдзе пад жыта, раўнуюць, яшчэ лепш утаптваюць і закрываюць двухвяршковым слоем зямлі. Калі гной у такой кучы будзе вельмі гарачы, гэта паказвае, што яго мала ўтапталі зімою як складалі ў кучу. Такі гной трэба паліць вадою, пасьля чаго кучу закрыць зямлёй.

Селянін **А. Карнейчык.**




## Да шляхоў разьвіцьця садоўніцтва ў Беларусі[1]).

Ураджай садовіны БССР у мінулым годзе і мажлівасьці збыту прымушаюць нас зьвярнуць на іх увагу. Гэты год трэба адзначыць, як год вялікага ўраждаю садовіны ў большасьці раёнаў СССР і ў Беларусі. У мінулым годзе мне давялося наведаць шэраг пунктаў і мясцовасьцяй СССР і УССР і мне нідзе не давялося сустрэць настолькі таннай садовіны, як у Беларусі, не давялося сустрэць такога значнага прадлажэньня.

Таннасьць беларускіх яблык, галоўным чынам антонаўкі, даўно вядома рускім спажыўцом. Нашы яблыкі знаходзілі сабе шлях у Ленінград, Маскву, Кіеў і нават Аўстра-Вэнгрыю, Чэхію, Нямеччыну, як аб тым сьведчыць нямецкі профэсар Янсэн. У шмат якіх раёнах, як Аршанскі, Горацкі, Мсьціслаўскі, Магілеўскі, Віцебскі ў мінулым годзе садовіна падала ў цане настолькі, што яе нясходна было вывозіць на рынак. У нас у Беларусі ў памяненых раёнах у многіх садох вішні засталіся несабранымі з дрэва, бо іх нясходна было здымаць (нізкія цэны не аплачвалі працы па здыманьню і дастаўцы на рынак). Летнікі яблыкі і ігрушы, і сялянскія сьлівы прадаваліся за поўцаны і пры перавозе за 20-25 вёрст амаль што не акупалі перавозкі. У многіх садох нам давялося бачыць, як кучы летнікаў гнілі без усякае карысьці для гаспадара. На рынку ў г. Горках можна было бачыць у базарныя дні па 50 і больш вазоў, напакаваных яблыкамі, якія і ў лістападзе прадаюцца па 40-80 кап. пуд. Збыт іх паводле попыту нязначны. У Аршанскай акрузе цана зьніжалася да 20—30 к. за пуд. Копысіцкае таварыства мяняла яблыкі на бульбу пуд на пуд. Цікава адзначыць і такі выпадак: помолёгічны сад Беларускай Акадэміі сельскай гаспадаркі ў Горках у мінулым годзе даў агульны ўраджай да 4.000 пуд. Аднак, ён зданы ў арэнду толькі за 800 рублёў. Цяпер гэтаму саду 60 год, ён ужо выбракаван на 60%, але быў час, калі ён быў у росквіце, даваў вялікія ўраджаі, а тым часам па захаваўшыхся запісах мы бачым, што ён ніколі не арандаваўся даражэй 1500 руб.

Абставіны гэтага году для садовіны пагоршыліся яшчэ ад таго, што перавоз па чугунцы вельмі слабы, не наладжаны ў параўнаньні з даваенным часам. З ст. Копысь у ранейшыя гады вывозілася дзесяткі тысяч, цяпер-жа вывезен толькі адзін вагон. Весткі аб кепскім

---

[1]) Артыкул друкуецца з скарачэньнем. (Рэд).

стане збыту садовіны мы маем і з Віцебшчыны, Магілеўшчыны і інш. раёнаў. Такія выпадкі могуць навесьці на думку, што садоўніцтва ў гэтых раёнах занадта пашырана. Але вось другі факт. Пакупшчыкі садовіны ня едуць у Горацкі і Мсьціслаўскі раёны затым, што ў гэтых мясцох пераважна пашырана сялянскае садоўніцтва з маленькімі садамі і садкамі (па некалькі дрэў летнікаў і асеньніх сартоў) з рознастайным асортымэнтам. А ў дробных садох немагчыма скупіць значную партыю аднасортнай садовіны; загэтым, садовіна ня мае збыту і застаецца ў гаспадароў. На абшары сучаснай БССР, як і на Паўднёвым Захадзе УССР, сялянскае садоўніцтва разьвіта „як нідзе ў сьвеце", гаворыць той-жа праф. Янсэн.

Другое, гэта тое, што яблыкі хутка псуюцца і што яны прадаюцца прыблізна ў адзін час, то зразумела, што рынак у гэты момант перапоўнены садовінай. А дзякуючы гэтаму, цэны вельмі зьніжаюцца.

Калі-б увесь ураджай можна было разьмеркаваць і рэалізаваць у больш доўгі пэрыод, то цэны трымаліся-б больш высокія. У Амэрыцы, як сьведчыць Гарольд Пауль, узрашчэньне садовіны хутка набыло выгляд гандлёвага промыслу і ў апошнія 30 год (даваенны час) стала аднэй з самых галоўных галін прамысловасьці амэрыканскай нацыі. Садовіна стала займаць вялікае месца ў спажытку амэрыканцаў. Разьмеркаваньне садовіны там рэгулюецца ў асобных спратах, у якіх падтрымоўваецца тэмпэратура мэханічным спосабам да 1—$1^{1}/_{2}{}^{0}$. Такія спраты для хаваньня садовіны будуюцца якой-небудзь компаніяй ці таварыствам у буйных гарадох і садовіна ў іх трымаецца на хаваньне за плату.

Добра там пастаўлена чугуначная і вадзяная перавозка, даючы магчымасьць перавозіць садовіну ў любую пагоду. У нашых умовах думаць аб пабудове такіх кладовых пакуль што ня прыходзіцца.

Выхад-жа мы бачым у наступным: 1) *існуючы рознастайны асортымэнт, асабліва летнікаў і асеньніх сартоў, неабходна дакладна абсьледаваць, выдзяліць з іх па 5—6 сартоў, якія больш выгодны ў тым ці іншым раёне, як прамысловы асортымэнт для масавага збыту.* Галоўную ўвагу пры гэтым трэба зьвярнуць на зімовыя сарты. 2) Коопэраваць дробных садаводаў—сялян. Першым крокам у гэтым напрамку лічыць неабходным у будучыне закладаць групавыя сялянскія сады. Пры нарэзцы пасёлкаў, для гэтага неабходна выдзяляць адпавядаючыя пад сад плошчы ў адным месцы для ўсіх жадаючых пасадзіць сад за кошт іх нормы. Сады асобных гаспадароў, пасаджаныя ў адным месцы, захоўваючы свой асабісты (індывідуальны) характар, дадуць магчымасьць лягчэй іх коопэраваць. 3) Тэхнічная перапрацоўка садовіны, хоць бы выраб пладовых він, павінна стаць сур'ёзнай рэяльнай дапамогай у справе збыту ўраджаяў садоў. Сушка пладоў, прыгатаўленьне павідла, мармаляды, марынаваньне—усё гэта мела-б сваё значэньне. Таксама неабходна большае значэньне надаць вырабу пладовых він.

Справа гэта практычна вывучалася, а таксама вывучаецца і цяпер у больш шырокім маштабе на аддзяленьні садоўніцтва Уманьскай школы. У гэтым леце мне давялося наведацца на Уманьскую „пераробку" (тэхнічная пераробка пладоў садовіны і гародніны) і „вінаробку". Гэтыя прадпрыемствы ў садзе і гародзе зрабілі на нас нязвычайнае ўражаньне.



У той час, як нашым садаводам няма ніякае магчымасьці збыць садовіну, або ўраджай таматаў і з $^1/_{20}$ дзес.; тая-ж частка іх, на якой дзякуючы сырому лету зьявіліся плямы або пачала загніваць, і зусім ня здымаецца і прападае. Там-жа ўраджай 4-х дзес. таматаў цалкам перарабляецца ў продукты і ідзе на скарыстаньне. Усё тое, што ня можа трапіць на рынак—перарабляецца ў іншыя продукты, якія могуць доўга захоўвацца і збывацца на далёкіх рынках.

Я быў, калі „вінаробка“ не працавала за адсутнасьцю матар‘ялу для перапрацоўкі і гэта пры вялікім ураджаі садоў тэхнікуму. Адным словам, усе плады перапрацоўваюцца вельмі скора, і мы ня бачым куч ападу ці зьнятых перасьпеўшых пладоў, якія даводзіцца назіраць у нашых садох Беларусі. Над сваім ураджаем яны поўныя гаспадары (у варэнду садоў ніколі не здаюць). Калі падышоў ураджай вішань і цэны на іх зьнізіліся да 30 кап. за пуд, то ў многіх садох, як і ў нас, лічылі нясходным прыбіраць ураджай. Вінаробка-ж тэхнікуму спраўлялася з ураджаем сваіх садоў і нават скупляла вішні і іншыя ягады ў абкружаючага насельніцтва для перапрацоўкі на віно. У мінулым годзе продукцыя віна дасягнула звыш 2.000 вёдзер. Вырабляецца вішнёвы лікёр, яблыноўка, вішнёва-ігрушавае, барбарысна-сьлівавае і інш. віны да $14^0$—$18^0$.

Але паколькі мы яшчэ мала цікавімся перапрацоўкай садовіны, вываз сьвежых пладоў, як і раней, будзе мець перавагу. Такім чынам, і ў будучым нашы садаводы могуць апыніцца ў дрэнным стане, асабліва ў гады ўраджайныя, як гэта было і сёлета. Гэтаму трэба дапамагчы дзяржаўным і коопэрацыйным установам. У бліжэйшы час нам прыдзецца, напэўна, распачаць выраб пладова-ягадных він. Некаторыя з іх маюць і лекавую вартасьць. Так, Петэнкофен у Мюнхене давёў, што віно з чарніц падмацоўвае выздараўліваючых і слабых людзей. Пладова-ягадныя віны маюць тую вялікую перавагу, што яны надаюць добрае і бадзёрае пачуцьцё не п‘яняючы; значыць, могуць вясьці барацьбу з п‘янствам.

Адным словам, у будучым нам трэба імкнуцца пашырыць выраб пладовага віна, каб з большай карысьцю збываць нашы ўраджаі садовіны.

Організацыя тэхнічнай перапрацоўкі садовіны з вырабам віна, бязумоўна, створыць умовы для хуткага росту пладаводзтва. Гэта даходная і працаёмкая культура дасьць магчымасьць скарыстаць лішкі рабочых рук у шчыльна заселеных мясцох БССР.

Сад, які засаджаны ў тры ярусы (верхні-яблыні і ігрушы, сярэдні—парэчкі, агрэст, маліна і інш.; ніжні—суніцы) на невялікай плошчы ў нямецкага фэрмэра забясьпечвае існаваньне яго сям‘і. На плошчы ў $^1/_{25}$ дзес. амэрыканец можа пасадзіць 474 пладовых расьліны: 18 нізкарослых ігруш, 6 розных сартоў пэрсікаў, 6 нізкарослых яблынь, 6 дрэў сьлівы і 6 вішань, 42 вінаградныя лазы, 20 кустоў ажыны, 40 кустоў чорнай і 40 чырвонай маліны і 300 расьлін суніц. На прыбытак ад такога саду сям‘я гаспадара можа існаваць нябедна ў працягу цэлага году. Вядома, што гэта даходна і прыбытачна ва ўмовах організаванага збыту ўраджаю.

Такім чынам, выраб пладовых він мае сэнс у збыце ўраджаяў саду і прыбытачны сам па сабе. З грамадзка-дзяржаўнага пункту пог-

ляду выраб віна неабходны, як для таго, каб аздараўляць насяленьне, так і з экономічнага боку карысны для вёскі (будуць скарыстаны свабодныя рукі пры разьвіцьці садоўніцтва).

Дасюль на гэта зьвярталася мала ўвагі, але над гэтым трэба сур'ёзна падумаць, каб распрацаваць гэта пытаньне навукова, і хутчэй перайсьці да практычнага выкананьня.

(Горкі, с.-г. Акадэмія). **Р. Гуржы.**

# Калі хочаш мець добрую гародніну—рабі парнікі.

Кожны селянін, які хоча мець добрую гародніну, павінен пабудаваць парнік для вырашчваньня раньняй гародніны і расады.

Просты і танны парнік можна зрабіць такім чынам: выкапаць ямку прыкладам $1^1/_2$ арш. ўдоўжкі і ўшыркі, з нахілам у сярэдзіну, глыбінёю $1\frac{1}{2}$ арш. Такога парніка хопіць для разьвядзеньня гародніны на свае патрэбы. Ямку трэба абрубіць так, як і яму для хаваньня бульбы. Упоперак зрубу прыбіваюць планкі так, каб на іх можна было палажыць раму. Паўночны бок трэба зрабіць трохі вышэй, чым паўднёвы, бо нахіл парніка павінен быць на поўдзень. Вышыня паўночнай сьцяны павінна быць 8-9 вярш., а паўднёвае 3-5 вярш.

Зьверху парнік пакрываецца рамаю. Рамы павінны быць моцныя, асабліва па вуглох. Шкло павінна класьціся на іх так, каб ніжні край верхняга шкла прыпадаў на верхні край ніжняга. Ніжняя частка рамы павінна быць зроблена так, каб вада добра з яе сьцякала. Шкло рам трэба замазваць кітам, а ніжні бок рам памаляваць белаю фарбаю.

Калі парнік будзе гатовы, тады дно яго закідваецца гноем папалам з лістам або саломаю. Гной можна браць конскі. Парнік увесь закідваецца гноем і ўтаптваецца нагамі. Калі гной вельмі сухі, то трэба паліць вадою. Зьверху гною насыпаць добрае гароднае зямлі на 3-5 вярш. Пасьля парнік зноў добра ўтаптваецца, зруб ставіцца на месца і пакрываецца рамаю. Класьці гной у парнік трэба загадзя.

Падрыхтоўку гною для парнікоў трэба пачаць за тыдзень. Дзеля гэтага бяруць з кучы столькі гною, колькі яго трэба на парнік; віламі гной ператрасаюць, каб ён быў аднолькавы; потым складаюць у кучу, трохі прымяшаўшы сьвежага гною з-пад коняй. Калі гной ад марозу ахаладаў, то ў сярэдзіну кучы можна ўліць вядры два гарачае вады і кучу накрыць саломаю ці саломістым гноем. Праз пару дзён гной добра ўгрэецца і тады яго трэба перамяшаць яшчэ раз і закідаць парнік. Пры гэтым увесь час яго трэба раўняць і ўтаптваць каб атрымалася плыткая маса. Лепш за ўсё на дно парніка класьці на $^1/_3$ саломісты гной, потым $^1/_3$ конскі гарачы, а зьверху зноў халодны. Закідваць трэба як найхутчэй і зараз-жа накрыць зьверху рамамі і матамі.

Праз 3-4 дні парнік адчыняецца. К гэтаму часу гной павінен добра ўгрэцца і злегчыся. Калі-ж гной ня будзе гарачым, то трэба зноў уліць вядро гарачае вады, а запаўшыя мясьціны зараўнаць.

Што гной добра гарачы, можна пазнаць усадзіўшы руку ў сярэдзіну (нельга будзе яе там утрымаць); калі гэта будзе так, то гной трэба зноў утаптаць па ўсяму парніку, асабліва пасярэдзіне.

Пасьля гэтага насыпаецца пласт зямлі куды і высяваецца расада.

**Селянін А. Карнейчык.**

# Беларускі вулей.

Зараз Беларусь зацікаўлена пчалярствам. Да рэволюцыі памешчыкі дзеля сваіх пасек заводзілі варшаўскія вульлі, сыстэмы Лявіцкага. Сяляне-ж у той час таксама бралі з іх прыклад і майстравалі такія-ж вульлі. Але цяпер сярод сялян найбольш пашыраны вулей сыстэмы Дадан-Блатта, які ўжываецца на прамысловых пасеках.

Спачатку і я вадзіў пчол у вульлёх Лявіцкага, але далей, як зьявіўся вулей Дадана, я ўхваціўся за яго.

Займаючыся пчалярствам з 1890 году і да гэтага часу я ўпэўніўся, што вулей Лявіцкага малы. Рамка яго завузка і завысока, а на зімоўку вялікай сям'і патрэбна 12-14 рамак, якія разам падобны да даўгаватай скрынкі; пры такім жа памяшчэньні пчолам нельга зьбірацца зімою ў правільны круглы клубок. Пчолы месьцяцца некалькі даўгаватым клубком, што шкодна адбіваецца на іх зімоўцы. Ніжнія канцы сотаў, якія не заняты пчоламі, засьцілаюцца цьвільлю і псуюцца; таксама шмат пчол асыпаецца і на вясну сям'я выходзіць слабой. Летамжа, калі ўжываецца ганяманаўская кратка дзеля адгараджваньня маткі, яна толькі мяшае пчолам, перашкаджаючы іх працы; бяз краткі-ж пчолы больш раяцца, чым зьбіраюць мёд.

Такім чынам выходзіць, што вулей Лявіцкага маладаходны.

Вулей сыстэмы Дадана добра падыходзіць дзеля прамысловых пасек, але патрабуе шмат працы каля сябе і пэўных ведаў ад пчаляра. Для зімоўкі пчол у вульлях Дадана патрэбен амшанік, бо на адкрытым паветры (на летнім месцы пасекі) у вульлі заводзіцца сырасьць і цьвіль. У сялянскай-жа гаспадарцы догляд за вульлямі Дадана зьяўляецца цяжкім, ня ўсё можна зрабіць сваячасна. А пры няпільным доглядзе ў гэтым вульлі пчолы таксама мала даходны. Знача, і гэты вулей дзеля сялян мала падыходзіць.

Для сялян больш спадручным будзе вулей Лайанса, але ён трохі завялік. Пчаліная сям'я ў ім ня шпарка павялічвае свае сілы вясною і к часу галоўнага ўзятку мёду бывае яшчэ слабой. Слабая-ж сям'я і мёду зьбірае мала.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, а таксама чытаючы ў літаратуры аб розных сыстэмах вульля і ведаючы, што ў калодзе-стаяку пчолы лепш зімуюць, чым у лежаку, і што летам у калодзе-лежаку пчолы зьбіраюць больш мёду, чым у стаяку, я і пастараўся ўсё гэта ўлічыць як-бы ў новай сыстэме вульля, які называю „беларускім вульлём“.

Дзеля гэтага вульля я ўзяў рамку Дадана, як больш падыходзячую па разьмеру для ўтварэньня правільнага клубка пчол пры зімоўцы, пры гэтым рамку пакараціў на 2 цалі, бо зімою гэта частка рамкі вольна ад пчол і засьцілаецца цьвільлю.

У маім вульлі для зімоўкі пчол трэба ставіць 8-10 рамак і тады гняздо выходзіць круглым, як у калодзе стаяку. Пчолы перазімоўваюць добра. Вясною, калі з вульля вымесьці сьмецьце, то ён бывае чысты і сухі; мёртвых пчол таксама мала. Вясною ў гэтым вульлі пчолы хутка прыходзяць у сілу.

Летам-жа ў гэты вулей можна паставіць 20-22 рамкі. Ён выцягваецца больш у даўжыню і падобны да калоды-лежака. У гады багатыя мёдазборам у беларускім вульлі можа надстаўляцца яшчэ паўрамка Дадана.

Шмат якія пчаляры (блізкіх вёсак) прызнаюць гэты вулей вельмі добрым для нашых прыродных умоў.

*Як устроіць беларускі вулей.* У сярэдзіне вулей павінен мець (на 20 рамак) даўжыню 800 см. (1 арш. 4 цалі), вышыню 440 см., шырыню 310 см.

Пры большым ліку рамак на кожную рамку трэба павялічваць даўжыню на 37 мм. ($1^1/_2$ цалі). Зьверху падоўжных сьценак з унутранога боку праганяецца фальц (16 мм. вышыні і 10 мм. шырыні). З надворнага боку дзьве падоўжныя і адна папярэчная старана вульля абшываюцца саломаю, каб разам з дошкаю мець таўшчыню 3-$3^1/_2$ цалі. Абшыўка падымаецца вышэй фальца $5^1/_2$ цалей, каб на вулей можна было класьці падушку, а летам надстаўляць паўрамкі для мёду. З такою абшыўкай вулей можа зімаваць на летнім месцы.

*Дзьверка вульля* майструецца з дошак у $^1/_2$ цалі таўшчыні на ўвесь вулей. Вышэй дзьверкі (супроць абшыўкі) да вульля прыладжваецца цалёвая дошка. Такое устройства дзьверкі дазваляе устаўляць і здымаць рамкі, ня здымаючы надставак і страхі вульля.

*Затвор* вульля не даходзіць да дна на дзьве цалі і бывае на ўзроўні рамак. Да затвора зьнізу супроць падрамачнага памяшчэньня вульля (як і ў вульлі Лявіцкага) на завесах або на раменчыках прыстрайваецца другая дзьверка. Адчыняючы яе можна ачышчаць вулей ад сьмецьця, апаўшых пчол і г. д., ня турбуючы гняздо пчол. На сярэдзіне затвора для назіраньня за пчоламі прыладжваецца ў 3-4 цалі шкло.

*Столь* вульля робіцца з дошчачак у $^1/_2$ цалі таўшчыні і 3 цалі шырыні. Кожная дошчачка пакрывае толькі 2 рамкі. Такім чынам, на столь патрэбна 10 дошчачак і яшчэ адна ў $1^1/_2$ цалі шырыні (на адну рамку).

Такая столь вельмі спадручна тым, што агледжаныя і пастаўленыя к затвору дзьве рамкі прыкрываюцца тою дошчачкаю, якая здымаецца з двух наступных рамак, якія мы наважылі аглядзець і г. д.

Пры гэтым спосабе заўсёды бываюць адкрытымі толькі 2 рамкі, якія аглядае пчаляр.

*Ляток* устрайваецца ў аднэй з доўгіх сьценак вульля ў самага дна. Даўжыня лятка павінна быць ня менш 14 цалей, а вышыня паўцалі. Ад папярэчных сьценак вульля ляток адыходзіць на 4 цалі. У салому, якою абшыты вулей, па разьмеру ўстаўляецца з тонкіх дошак скрыначка бяз дна. Да лятка на завесах прыстрайваецца *прылётная дошка.* На зіму яна прысланяецца да сьценкі вульля і тым самым захоўвае пчол ад ветра і сьвету. Для павялічэньня ці зьмяншэньня даўжыні лятка з двух бакоў робяцца задвіжкі.

Страха вульля будуецца з саломы. Яна перагібаецца ўпоперак вульля. Таўшчыня страхі 2 цалі. Страха заўсёды стромая, каб лепш сьцякала вада. Служыць такая страха 10—12 год.

*Рамкі* майструюцца з планак: верхняя планка даўжыні 327 мм., шырыні 25 мм. і таўшчыні 10 мм.; бакавыя планкі даужыні 390 мм., шырыні і таўшчыні, як і верхняя; ніжняя планка даўжыні 275 мм., шырыні 20 мм. і таўшчыні 12 мм. У верхняй планцы на 16 мм. ад канцоў пракручваюць па адной дзірацы, а ў бакавых планках па велічыні дзірачак робяць шыпы. На гэтыя шыпы набіваецца верхняя планка, а ніжняя планка ўстаўляецца паміж бакавых у другім канцы і зьбіваецца. Зусім змайстраваная рамка павінна мець з *паверхні* 385 мм. вышыню і 295 мм. шырыню; у *сярэдзіне*—363 мм. вышыню і 275 мм. шырыню.

Селянін-пчаляр **С. Бабейка.**

Вёска Мацкевічы, Случчына.




## Догляд цельнае каровы.

Кожнаму гаспадару трэба ведаць, як даглядаць цельную карову. Гэтым доглядам трэба захаваць здароўе каровы і яе будучае цяля. У нашых гаспадарках вельмі часта за цельнай каровай не глядзяць добра, ад чаго гаспадары маюць толькі вялікаю шкоду.

Догляд каровы за 2-3 месяцы перад ацёлам вельмі адказны, як з боку кармленьня, так і збоку яе ўтрыманьня. Ацёл каровы, асабліва першацёлкі, мае вялікі ўплыў на ўвесь удойны пэрыод, а таксама і на цяля. Усякая неасьцярога з цельнай каровай вядзе яе да розных хвароб, да выкідышаў і г. д. Маючы ўсё гэта на ўвазе, гаспадару трэба ведаць як карміць і даглядаць цельную карову.

Калі карове даваць вельмі мала кармоў ці, як кажуць, недакармліваць яе, то ад гэтага цяля родзіцца малым, а карова будзе худняць. Наадварот, калі карову перакармліваць, то цяля будзе вельмі вялікае і ацёл будзе цяжкі. Пры лішнім закармліваньні цяляты бываюць таксама малымі і хілымі, бо шмат корму ідзе на жыр каровы. Норма для кароў сярэдняга складу (пры вазе прыблізна да 20 пуд. ці 330 кілёгр, жывой вагі)—$3^{1}/_{2}$ кілёгр. кармовых адзінак.

Калі цельная карова вельмі худая, то ёй за 2-3 месяцы да ацёлу даюць надбаўку каля $^{1}/_{2}$ кіл. зярновых адзінак, каб паправіць яе.

Цельнай карове трэба даваць у корм добрае сена, салому і $^{1}/_{2}$ кіл. зярнят. Патрэбна, каб корм ня быў вельмі аб'ёмны. У корм цельнай карове трэба даваць патрэбную колькасьць спажыўнага корму і соляй (яны патрэбны на косьці цяляці). Гэтыя солі будуць брацца з касьцей самой каровы, калі іх будзе мала ў корме. Недахоп соляй у корме каровы можа выклікаць хваробу, вядучую да палому яе касьцей. Цельнай карове трэба даваць у дзень сталовую лыжку апаленых і памолатых касьцей, а калі гэтага няма, то-хоць лыжку крэйды.

Можна і нават карысна даваць цельнай карове бульбу і корняплоды ў невялікім ліку (5-8 кіл. на галаву ў дзень). Корняплоды лічацца паслабляючым кормам.

Цельнай карове забараняецца даваць корм заплесьнеўшы, пакрыты іржой, гнілы, прагорклы ці пачаўшы брадзіць. Забараняецца даваць таксама корм з жытнімі ражкамі, каб ня было выкідышу. Корм, які можа пучыцца (зялёная канюшына) ці папірае (салома бабовых), цельнай карове лепш не даваць. Вельмі вадзяністыя адкіды, як брага,

цельнай карове таксама не даюць. Не патрэбна даваць каровам і халоднай прамёрзлай бульбы ці іншых корняплодаў, а гэтак-жа вельмі гарачага корму.

Усіх гэтых прадасьцярог пры кармленьні цельнай каровы асабліва трэба трымацца апошнія 2 месяцы (лепш 4 месяцы) да ацёлу.

За цельнай каровай павінен быць добры догляд. Такіх кароў ня трэба стамляць доўгімі пераходамі, не даваць ім скакаць праз равы, платы, ня біць іх. Неабходна глядзець, каб у хлявох для цельных кароў былі даволі шырокія вароты, прасторныя стойлы. Гной у стойле трэба разраўнаваць. Подсьціл у хлеве кладзецца даволі цёплы і сухі. Цельная карова абараняецца ад сквазьняку. На вадапоях, калі каровы выганяюцца на двор, лёд насякаецца, каб ня было скоўзка. Няправільна растучыя капыты трэба абразаць, каб каровы ня коўзаліся. За два тыдні да ацёлу карову зусім ня трэба выганяць з хлява.

Усе гэтыя прадасьцярогі забараняюць карову ад выкідышаў, выві̇хаў, паломү касьцей і інш. Апрача корму і дрэннага догляду, выкідышы могуць быць і заразьлівыя. Такія выкідышы паўтараюцца часта. Пры заразьлівых выкідышах за парадай трэба зьвяртацца да вэтэрынара.

У некаторых кароў перад ацёлам часта набухае ад малака вымя. Такіх кароў неабходна выдойваць да цяленьня, але не начыста, каб не раздаіць каровы да цяленьня і каб яна ад гэтага не захварэла родавай гарачкай. У першацёлак часта мнуць саскі, каб яны лепш даваліся даіцца і ссаць цялятам.

Перад самым ацёлам не патрэбна карову перакармліваць сытнымі кармамі. Ад такога перакорму ў кароў бывае радзільная гарачка і яны падыхаюць. Гэта асабліва часта бывае ў малочных кароў. Каб такога зьявішча ня было, раіцца за 10-15 дзён да ацёлу каровам зьменшыць дачу спажыўнага корму і за 2-4 дні да ацёлу менш паіць. Выцеліўшуюся карову можна паіць толькі праз 12 гадзін, даючы ёй часта па $^1/_4$—$^1/_2$ вядра вады; толькі 3-4 дзень можна даваць вады ўволю. Даіць выцеліўшуюся карову можна не раней, як праз 4-6 гадзін. Гэту карову трэба асабліва берагчы ад холаду, сквазьнякоў; патрэбна, каб яна не ляжала на бруднай сырой саломе. У корм карове можна даць цеплаватае пойла праз 2-3 гадзіны пасьля ацёлу.

Пасьля пойла можна даваць карове добрае сена. Да поўнай нормы карову можна давесьці толькі праз 10-12 дзён.

С. Журык.

(Горкі, с-г. Акадэмія).

---

# Адкуль браць быкоў.

Малочны напрамак жывёлагадоўлі залежыць ад разьвядзеньня лепшай завадзкой або малочнай скаціны з гадоўляй сваіх быкоў.

Нажаль, завадзкая жывёлагадоўля ў нас яшчэ маладая справа і мы яшчэ бедны на завадзкую жывёлу. Таксама мы ня зусім добра ведаем усё каштоўнае ў нашай скаціны і часта спадзяёмся на ўвоз да нас добрай жывёлы з чужых краёў. У 1924 г. Наркамзем меў на мэце гадоўлю завадзкіх бычкоў па некаторых савецкіх гаспадарках, але з 200 бычкоў толькі 89 вышлі больш-менш здавальняючымі. У 1925 г. саўхозы далі таксама мала (79 быкоў).

У 1926 годзе гэту справу трэба праводзіць больш шырока, як праз савецкія гаспадаркі, так і с.-г. коопэрацыю, колектывы і паасобныя сялянскія гаспадаркі, з прыцягненьнем сюды крэдыту.

Бярэце добрага бычка-цяля ад найлепшай каровы сваёй вёскі ці сярод кароў бліжэйшае савецкае гаспадаркі, а то і бліжэйшага гораду, мястэчка, і гадуйце яго. Ня трэба глядзець на масьць і пароду бычка, а толькі зважайце на тое, каб ён быў ад малочнай і добрай маткі. Як самы выбар бычка, так і гадоўлю даручэце добраму вопытнаму гаспадару.

Цяля-бычок павінен быць ад 5—10 гадовае маткі, мець пры нараджэньні ня менш $1^1/_2$-2 пудоў вагі. Каб бычок лепш скарыстаў для свайго росту першую пашу, трэба, каб ён быў зімовага ацёлу.

Для добрага разьвіцьця бычка трэба сачыць за чыстатой, цяплынёй у хлеве і карміць паводле патрэбы. Да 4 тыдняў цяляці даюць няздыманае цёплае малако маткі па вазе (штодня па $^1/_6$ яго вагі). З пятага тыдню няздыманае малако замяняецца здыманым (штодня па 1-2 бутэлькі) і з дабаўленьнем $^1/_2$-1 фун. высевак, ільнянае макухі, мукі; таксама даецца і 1-$1^1/_2$ фун. добрага сена. Ад 1 мес. і да 5 бычок павінен атрымоўваць здыманае малако (пачынаючы з 20—24 фун. у дзень), але з паступовай заменай штомесячна 1-2 бутэлькі на $^1/_2$ фун. спажыўных кармоў і 1 фун. сена. Ад паўгода і далей, бычку трэба даваць 3—5 фун. спажыўных кармоў і добрае сена ўволю. Летам патрэбна добрая, здаровая і сухая паша. Таксама быку трэба даваць увесь час перапаленыя тоўчаныя косьці, крэйду і сталовую соль па невялікай порцыі (2-3 разы ў тыдзень).

Пры добрым разьвіцьці і росьце прырост вагі бычка павінен ісьці ў поўнай меры. Добрая адзнака, калі бычок прырастае ў працягу першых 1—3 мес. на 1,25-1,5 ф. у дзень у сярэднім, а ў працягу наступных 3—6 месяцаў—на $^1/_2$ фун. у дзень у сярэднім; тады ёсьць пэўнасьць, што ён да пачатку злучнай службы на ўзросьце 1,5-2 г. дасягне патрэбнага разьвіцьця і жывое вагі ў 25 пуд.

Усяго кармоў на гадоўлю быка пойдзе ў год:

| | |
|---|---|
| 200 п. сена на. . . . . . . . . . | 50 руб. |
| 75 п. яравой саломы . . . . . . | 10—12 „ |
| 50 п. высевак . . . . . . . . . | 30—35 „ |
| 15 п. аўса. . . . . . . . . . . . | 10—12 „ |
| 20 п. макухі . . . . . . . . . | 15 „ |
| Паша, пастух і інш. . . . . . . | 10 „ |
| УСЯГО. . . . | 125—134 руб. |

Гэты кошт гадоўлі быка пры раскладцы на зацікаўленых гаспадароў, маючых разам 60-80 кароў, нельга лічыць вялікім. Усе расходы па гадоўлі і ўтрыманьню быка акупяцца.

Бяз гэтага падбору і палепшаньня быкоў, бяз супольнага, коопэрацыйнага забесьпячэньня вясковых стадаў добрымі быкамі, ніколі ня будзе карысьці ад кароў, ніколі не разаўецца і добрая гаспадарка. Бык—яе аснова.

Таварыства па вырашчваньню быкоў—навінка толькі ў нас на Беларусі; у іншых-жа краёх яны ўвайшлі ў жыцьцё, як неабходная і карысная праца.

**П. Ластоўскі.**

# Барацьба з бязконнасьцю.

Лік бязконных гаспадарак на Беларусі дасягае да 17 проц. ад усіх сялянскіх гаспадарак; апрача таго, па даных ЦСУ, у 1923 г. было 23 проц. гаспадарак, якія наймалі рабочую скаціну для с.-г. працы, хаця з іх 6 проц. і маюць па аднаму каню. Гэтыя лічбы гавораць за тое, што пры земляўпарадкаваньні і пераходзе гаспадарак на шматпольле аднаму каню часта нельга абслужыць поўнасьцю гаспадарку.

Што-ж рабіць тым гаспадаром, якія ня маюць ніводнага каня? Без каня становішча іх дрэннае, яны часта прымушаны ісьці да кулакоў і прасіць каня, а потым у самы гарачы час прыборкі поля ісьці і адрабляць кулаку свой доўг за каня. Такое становішча беднякоў павінна быць палепшана, што і робіць савецкая ўлада. У гэтым выпадку на сустрэчу бязконным гаспадаром ідзе Сельска-гаспадарчы Банк і Сельсаюз.

С.-г. банк на гэты год адпушчае 1.200.000 руб. крэдыта на куплю коняй. Большая частка гэтага крэдыту пойдзе праз нізавую с.-г. крэдытовую коопэрацыю паасобным гаспадаром для куплі коняй на мясцовых рынках; другая частка пойдзе на куплю коняй у Сібіры праз Сельсаюз.

У сучасны момант зроблена ўмова паміж Белсельсаюзам з аднаго боку, і Сельсаюзам РСФСР з другога, на вываз з Сібіры ў Беларусь пакуль што 300 коняй. Коні павінны быць дастаўлены здаровыя, ад 3 да 9 год. Яны будуць прывезены ў прызначаныя базы і вызначаныя тэрміны будуць прадавацца сялянам ня вышэй рыначнай цаны, па ацэнцы асобнай камісіяй *(з прадстаўнікоў Наркамзему, Белсельсаюза, Белсельбанка і Сельсаюза)*. Гэта камісія пры ацэнцы прымае пад увагу сабекошт, пароду каня і рыначныя цэны. Падрахункі робяцца паміж Белсельсаюзам і Сельсаюзам. Сяляне-ж плацяць налічнымі грашмі толькі 10 проц. пры пакупцы і 25 проц. пасьля прыборкі ўраджаю 1926 г., а рэшту ў вызначаныя срокі. Такая опэрацыя спыніць павышэньне цэн на коняй на мясцовым рынку і дасьць магчымасьць сялянам-беднаце купляць коняй без гандляроў, а таксама вызваліць іх ад ярма кулакоў у час веснавой і летняй працы. Пры АКРЗА на мясцох у гэтым напрамку працуюць асобныя бюро.

С. Дыяконенка.

---

# Прыгатаўленьне тварогу.

Добры тварог патрабуецца на рынку і мае добрую цану. На нашы рынкі выпрабляецца шмат тварогу, але больш 2 і 3 сорту. Гэта тлумачыцца няўменьнем прыгатаўляць у дробных гаспадарках і маслабойных заводах, дзе няма адпаведнага абсталяваньня.

Але і пры простым абсталяваньні можна зрабіць добры тварог першага сорту.

Для прыгатаўленьня тварогу неабходна мець цёплы пакой з тэмпэратурай ня менш 15-16° R., у якой можна было-б квасіць малако.

Калі ёсьць драўляныя і мэталёвыя кадкі, то квасіць малако можна і ў менш цёплым пакоі, толькі трэба паміж сьценкамі кадак падліваць час ад часу гарачую ваду і такім спосабам падтрымоўваць патрэбную тэмпэратуру.

Калі квасяць малако ў драўлянай пасудзіне, то яе трэба трымаць у чыстаце: мыць з содай або распушчанай вапнай; ня шкодзіць і прамаражваць. Іначай сыракваша ня можа добра выварыцца і мае нядобры смак.

Каб скора сквасіць малако і каб тварог меў патрэбную квасласьць, неабходна заквашваць яго закваскай, а ў наступны раз можна ўжо карыстацца сыроваткай з-пад тварогу, калі яна добрая.

Закваску робяць так: бярэцца ў вядро малако, з якога зьняты жыр на сэпаратары. Вядро з малаком завязваецца і ўстаўляецца ў кадку з гарачай вадой 28° Р. Гэту тэмпэратуру трэба падтрымоўваць на працягу квашэньня. Праз 12 гадз. закваска гатова.

Закваску ўзбаўтваюць і льлюць да малака пры 28° Р. тэмпэратуры ў колькасьці 5 проц.

Праз 15-18 гадзін сыракваша гатова. Яна мае бліскучую паверхню і калі зачарпнуць, застаецца незаплыўшая ямка. Наогул сыракваша непавінна пузырыцца.

Каб мець слаісты тварог, трэба сыраквашу здымаць роўнымі пластамі ў круглы цэбар, каб не перамешваць.

Затым цэбар устаўляюць у гарачую ваду, цяплыня якой не павінна быць больш 43-45° Р. Гэта падкрэсьліваецца для таго, што пры адварваньні тварог найчасьцей і псуюць.

Калі тэмпэратура пры адварваньні больш патрэбнай, то па краёх кадкі тварог прыгарае і ўсплывае на паверх у той час, як у сярэдзіне ён зусім халодны. Калі тварог у такім стане будзе гатавацца, то атрымоўваецца $^2/_3$ нягоднага з $^1/_3$ больш-менш здавальняючага.

Пры 43-45° цяплыні тварог гатовіцца праз $1^1/_2$—2 гадзіны, не прыгарае з бакоў і аднолькавы, як у сярэдзіне, так і па бакох.

Выварaны тварог выкладаецца на стол, засьцелены посьцілкай, або ў кош, засьцелены марляй і калі большасьць сыроваткі сьцячэ, тады накладаюць цяжар для канчатковага прасаваньня.

Лепш тварог адразу выкладаць у кош, бо потым ня трэба будзе перакладваць, а толькі зашыць і адправіць у горад. Тэмпэратура пакою, у якім выкладаюць тварог, павінна быць 8° Р. Пры большай тварог пачынае закісаць. На сярпянцы тварог ляжыць 10-12 гадзін, потым зьлёгку прасуецца і складаецца ў прызначаныя для адпраўкі кадкі, стараючыся не паламаць.

Каб рабіць запас тварогу, то для гэтага лепш тварог выкладаць на рэшата і, як сыроватка сьцячэ, класьці тварог у кадкі, стараючыся не ламаць пластоў; потым устаўляць у кадку кружок і моцна спрасаваць.

Прэс—няроўнаплечны падважнік, стрыжань якога цісьне на кружок. Як цяжар, вешаюць пудовую ці поўпудовую гіру або проста скрынку з каменьнямі.

У час прасаваньня ў кадках на паверхні тварогу выціскаецца шмат сыроваткі, якую зьліваюць, дадаюць у кадку тварогу і зноў прасуюць.

Пры такой прасоўцы пласты тварогу ня так крамсаюцца, за што ён асабліва цэніцца. Поўную кадку завязваюць і таксама адпраўляюць на рынак.

Лутц.

Прылукі, Меншчына.

# Вэтэрынарыя.

## Хваробы ў авечак.

Авечкі, як вядома, часта хварэюць на тыя самыя хваробы, што і кожная іншая жывёла. Толькі ў авечак ёсьць пэўныя хваробы, ад якіх яны больш церпяць і якія выклікаюць паміж імі досыць значныя страты.

Дзякуючы таму, што авечак разводзяць дзеля воўны і аўчыны,— *наскурныя* хваробы ў іх займаюць першае месца і патрабуюць да сябе найбольшай ўвагі. Зразумела, што і ўсе іншыя хваробы, асабліва хранічныя, якія зьнясіляюць авечак, таксама павінны цікавіць кожнага гаспадара ня толькі таму, што хворыя мізарнеюць і трацяць мяса, але і таму, што ў іх псуецца воўна пад час хваробы. Ня трэба ўжо казаць што *заразьлівыя* хваробы, так зв. пошасьці, якія нападаюць на авечак, як і на кожную іншую жывёлу, павінны цікавіць гаспадара ня толькі таму, што ад іх гінуць тыя, што захварэюць, але і таму, што зараза ад авечкі можа перайсьці на іншую свойскую жывёлу і пацягнуць за сабою вялікія страты, пашырыўшыся на значныя абшары.

Тут мы разгледзім толькі некаторыя авечыя хваробы, якія досыць часта сустракаюцца ў авечак.

**Катар носу.** (цеча з носу) бывае досыць часта ў авечак, то ў лёгкай форме, то ў больш-менш цяжкай. Тая і другая форма катару бывае найчасьцей ад застуды, ад пылу і часамі адразу захоплівае шмат авечак. Найбольш церпяць ад катару ягняты і слабыя авечкі, яны хутка зьнясільваюцца, дрэнна растуць і робяцца кволымі. Катар з носу можа перайсьці на горла і на вочы. Хворыя авечкі пры гэтым чхаюць, сапуць, трацяць жуйку, у іх зьяўляецца гарачка, затрыманьне жалудку часта зьмяньвае пранос, сілы слабеюць, авечкі больш ляжаць і мізарнеюць. Перад сьмерцьцю зьяўляюцца сутаргі.

*Лечаць* катар прамываньнямі носу рашчынай борнага квасу( 1 гарбатную лыжачку б. квасу на шклянку вады). Захварэўшых аддзяляюць у больш цёплы і сухі хлеў паляпшаюць ім корм і агульныя ўмовы ўтрыманьня.

**Авечы авадзень**—таксама выклікае катар носу. Гарачым летам, у сярэдзіне альбо ў канцы лета, па ўзьлесьсю лётае шмат авечых аваднёў, саміцы якіх запаўзаюць авечцы ў нос і там пакідаюць свае яйкі. Праз некаторы час з гэтых яек вырастаюць чарвячкі вялічынёю з боб, якія паўзуць глыбей, у верхнюю частку носу, нават запаўзаюць ў лобавыя і рагавыя пазухі і сядзяць там месяцы 3—4. Калі чарвячкоў гэтага авадня народзіцца ў носе шмат, то авечкі ад іх вельмі церпяць і нават прападаюць. З носу ў такіх авечак бесперастанку цячэ гной, яны ходзяць хістаючыся і спусьціўшы ўніз галаву.



Авечы авадзень.
а—дарослы; в—чарвячок.

Выгнаць аваднёвых чарвячкоў з носу няма як, ніякімі спосабамі іх нельга адтуль дастаць. Каб папярэдзіць гэтую хваробу, радзяць у гарачую пару, у сярэдзіне і ў канцы лета, не пасьвіць авечак паблізу лясоў; насы ў авечак намазваюць дзёгцем, крэолінам з ільняным маслам (1 ч. крэоліну на 10 ч. масла) карасінаю і наогул сродкамі з моцным пахам, які адбіваў-бы аваднёў. Таксама вельмі карысна рабіць венікі з квітучага палыну; высушыўшы іх у цяньку, мачаюць у чысты

дзёгаць і ўсьлед выкачваюць у дробнай звычайнай солі; гэткія венікі разьвешваюць у аўчарнях і час-ад-часу ўзнаўляюць. Авечкі з вялікаю ахвотаю ліжуць гэткія венікі і нават абгрызаюць іх: гэта ня толькі перасьцярагае іх ад аваднёў, але таксама карысна і супроць другое пашыранае у нас на Беларусі авечае хваробы—супроць так зв. „матыліцы“ альбо „мятлушкі“ (пячонкавага двуроту).

Аб хваробе „**матыліца**“ (пячонкавы двурот), альбо, як яе завуць у нас на Горшчыне, „мятлушка“ *) гл. „Плуг“ № 3 — 1925 г., стар. 31 і 32. Хвароба гэта, як вядома, пануе на нізкіх балоцістых мясьцінах; у некаторых мясцох ёю заражаны да 60% авечак і дзеля таго, што глісьцюкі, якія яе выклікаюць, сядзяць у печанёх, барацьба з гэтаю хваробаю лекамі амаль што немагчыма. Сяляне самі прабуюць ужываць пры гэтай хваробе розныя спосабы, як напр. у некаторых вёсках хворым авечкам даюць халодную чыстую ваду і канапляную мякіну. У апошнія часы заграніцаю знашлі новае лякарства проці „матыліцы“—„Дысталь“, якое нібы дае добрыя вынікі. Галоўнае пры гэтай хворобе—гэта асушка канавамі і дрэнамі балотаў і пасыпка авечае пашы вапнаю, ад чаго зародкі глісьцюкоў „матыліцы“—зьнікаюць.

„**Валасень**“—так завецца хвароба, што выклікаецца цененькімі, як волас, глісьцюкамі (валасьня), які ў значным ліку часамі трапляе у гарлянку і ў дыхальныя дудачкі (так зв. бронхі) авечкам. З кашлям гэтыя глісьцюкі разам з яечкамі выхарквающца авечкамі і трапляюць у лужыны, крыніцы і наогул на мокрыя мясьціны, якіх усюды шмат знаходзіцца па балотах. Там, у вадзе, з гэтых яечак вырастаюць глісьцюкі—„валасьня“, якія потым, калі авечкі пьюць гэткую заражаную ваду, разам з вадою трапляюць да здаровых авечак і заражаюць іх. Заражаныя авечкі моцна кашляюць, цяжка аддыхваюць, трацяць апэтыт, слабеюць і часта прападаюць ад зьнясіленьня. Асабліва церпяць ад валасьня маладыя авечкі і ягняты, якіх часта прападае добрая палавіна.



Валасень гарлавы.
Налева—самец і саміца; направа—кавалак горла авечкі, усыпаны глісьцюкамі валасьня.

*Лячэньне* ад „валасьня“ лекамі нязвычайна нявыгоднае і патрабуе ўдзелу вэтэрынара. Спачатку хваробы радзяць абкурваць хворых дымам з пад ялаўцу, з пер‘я, або з рогу; абкурваюць іх у шчыльна зачыненым хлеве і трымаюць авечак у гэткім дыме мінут 15, ня болей.

*Перасьцярога.* Ягнят, і наогул авечак, ня радзяць пасьвіць па мокрых і нізкіх мясьцінах, асабліва пад час дажджоў. Ягнят у вільгаць найлепш трымаць на сухім корме, альбо перад выганам на пашу падкармліваць сенам і выганяць у поле напаіўшы іх дома, каб авечкі ня кідаліся да кожнае лужыны. Нізкія, заімшэлыя мясьціны і вы-

*) Даклад студэнта Новікава ў Краязнаўчым гуртку пры Беларускай с.-г. Акадэміі ў Горках. „Мятлушка“ (дистоматоз) у авечак і сялянскія спосабы лячэньня яе.

ганы, а таксама вялікія лужыны там, дзе пасуцца авечкі, належыць абсушваць канавамі і дрэнамі, каб зьнішчыць зародкі ўсякіх глісьцюкоў. Гной, дзе стаяць хворыя авечкі, карысьней спаліць.

**„Вярцячка“**—хвароба, пры якой авечкі кружацца навокал сябе. Вярцячка ў авечак бывае ад таго, што ў мазгі да іх трапляе часамі зародак істужкавага сабачага рабака (ланцужнага мазгавіка), які звычайна жыве ў іншых сабак. Авечкі зьядаюць яечкі гэтага рабака разам з травою, забруджанаю сабакаю, якая мае ў сабе гэтага рабака. У жываце авечкі з яечак вылупляецца зародак рабака; ён прасьвідроўвае сьценку жалудку, трапляе ў кроў і крывёю заносіцца ў мазгі авечкі; тут, у мазгох ён затрымоўваецца і жыве аж да самае сьмерці авечкі,—гэтым і выклікаецца вядомая ўсім хвароба, так зв. „вярцячка“ авечкі. Сабакі, якія зьядаюць мазгі хворае авечкі, заражаюцца ад іх гэтым рабаком і з свайго боку заражаюць потым авечак яечкамі гэтага рабака.




Ланцужны мазгавік (сабачы).

A—дарослы рабак; B—авечы мазгавік; C—частка вадзянкі авечага мазгавіка з мазгоў. (Павялічана).

Хворыя авечкі спачатку хутка томяцца, адстаюць ад статку, робяцца пужлівымі, вочы ў іх набягаюць крывёю, лоб робіцца гарачы і авечкі, трацячы прытомнасьць, кружацца ля аднае каторае нагі, альбо стаяць упершыся ў сьцяну лобам ці бегаюць, як няпрытомныя, спусьціўшы галаву ўніз альбо схіліўшы яе набок. Часамі, асабліва ў ягнят, хвароба выяўляецца спачатку кволасьцю ў задзе, хворыя ходзяць хістаючыся на зад, спатыкаюцца і нарэшце ў іх параліжуе ўсю заднюю частку цела. Наогул, захварэўшыя на „вярцячку“ авечкі гінуць ад зьнясіленьня і палярушу мазгоў. Калі абмацаць рукамі галаву хворае авечкі, то можна заўважыць у яе на галаве невялічкі вопух, націснуўшы на які лёгка выклікаць боль і сударгі ў хворае авечкі.

*Лечаць* хворых на вярцячку авечак, робячы ім апэрацыю на галаве і дастаючы з мазгоў зародак рабака (авечы мазгавік). Але гэтая опэрацыя не заўсёды дае добрыя вынікі.

*Перасьцярога* пры гэтай хваробе мае большае значэньне. Кожную вясну і восень неабходна выганяць рабакоў з сабак. Сабакам даюць 4 разы на дзень, праз кожныя 4 гадзіны, па гарбатнай лыжачцы парашку з карнявішча папараці; праз 6 гадзін пасьля апошняе лыжачкі папараці даюць 2-3 лыжкі рыцыны ці алею. Кал з рабакамі і галовы авечак, якія прападуць ад „вярцячкі“, належыць спаліць.

Горкі, с-г. Акадэмія.

**І. Серада.**

# АГРОДАПАМОГА

## Аб выніках працы аграномаў за 1924-25 г.

У № 1 „Плуга“ тав. Шыцькоўскі даў кароткае апісаньне дасягненьняў сельскай гаспадаркі Беларусі за мінулы год.

Там паказана ў лічбах, што наогул сельская гаспадарка даволі хутка пасоўваецца ўперад; ёсьць дасягненьні ў паляводзтве і жывёлагадоўлі. Наша вёска пераходзіць да новага гаспадараваньня.

У гэтым артыкуле будзе гутарка аб працы аграномічных працаўнікоў вёскі, якіх сялянства ўсё больш і больш пачынае прызнаваць і зваць для перабудовы старой гаспадаркі.

Тут-жа гутарка будзе аб тым, што наогул зрабіла для сялянства вучастковая аграномія за апошні год.

У пачатку і канцы мінулага году было агропрацаўнікоў па акругах.

| АКРУГІ | Мелася на 1 кастрычн. 1924 г. | | | Мелася на 1 кастрычн. 1925 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пры АКРЗА | На агровучастках | Усяго | Пры АКРЗА | На агровучастках | Усяго |
| Менская | 3 | 34 | 27 | 3 | 31 | 34 |
| Барысаўская | 3 | 18 | 21 | 3 | 20 | 23 |
| Бабруйская | 2 | 24 | 26 | 2 | 24 | 26 |
| Слуцкая | 3 | 11 | 14 | 2 | 16 | 18 |
| Мазырская | 2 | 17 | 19 | 3 | 20 | 23 |
| Віцебская | 4 | 22 | 26 | 3 | 30 | 33 |
| Полацкая | 3 | 9 | 12 | 3 | 27 | 30 |
| Аршанская | 3 | 10 | 13 | 3 | 21 | 24 |
| Калінінская | 1 | 10 | 11 | 2 | 22 | 24 |
| Магілеўская | 1 | 18 | 19 | 3 | 19 | 22 |
| Усяго па БССР | 25 | 163 | 188 | 27 | 230 | 257 |

Пры АКРЗА быў акруговы агроном і два спэцыялістых-інструктары (жывёлавод і садавод); на агровучастках—вучастковы агроном і яго памоцнік.

Усяго вучастковых аграномаў было к канцу году па ўсёй Беларусі 96 чал., а памоцнікаў іх 134 чал.

З табліцы відаць, што лік агропрацаўнікоў к канцу году павялічыўся, асабліва ў Полацкай, Аршанскай і Калінінскай акругах; таксама павялічыўся лік агропрацаўнікоў і на аговучастках. Аднак уся агрономічная сетка к канцу году налічвала па Беларусі ня больш 250 агрономаў.

Колькі насельніцтва і якую тэрыторыю абслугоўваў адзін агроном і яго памоцнік, відаць з наступнай табліцы:

| | |
|---|---|
| Сельсаветаў | 12 |
| Розных селішчаў | 263 |
| Насельніцтва (душ) | 35.943 |
| Гаспадарак (двароў) | 6.688 |
| Пасяўной плошчы (дзес.) | 24.929 |

Усе гэтыя лічбы сялянам трэба ведаць, бо яны тлумачаць, чаму агроном ня можа абслугоўваць усе гаспадаркі (у аговучастку гаспадарак да 7.000, а агрономаў два).

### Што зрабілі агрономы і іх памоцнікі для насельніцтва за мінулы год.

Прывядзем некалькі лічбаў аб працы па пашырэньню с.-г. ведаў. Усяго праведзена с.-г. курсаў 127 (з іх па жывёлагадоўлі 38). Было слухачоў на курсах 6.820 чал. На 1 курсы прыпадала ўсярэднім 53 асобы.

Найбольш курсаў было праведзена ў акругах:

| | |
|---|---|
| Бабруйскай | 23 |
| Віцебскай | 32 |
| Барысаўскай | 17 |
| Менскай | 17 |

*С.-г. лекцыі і гутаркі.* Па розных пытаньнях сельскай гаспадаркі было праведзена агрономамі за год 8.054 лекцый і гутарак з 31.8360 слухачамі. Акрамя таго, агрономы рабілі даклады і вялі гутаркі на 496 сялянскіх сходах (конфэрэнцыях), дзе было больш 37.000 асоб.

*С.-г. гурткі.* Паколькі маглі, агрономы дапамагалі працы с.-г. гурткоў. Усяго абслугоўвалася агрономамі прыблізна 250 гурткоў (па 2-3 гурткі ў раёне). У мінулым жа годзе на Беларусі было ўсяго каля 538 гурткоў; абслужыць усе іх агрономы ўжо не маглі.

*Агропрапаганда праз друк.* Агрономы вялі сваю пропаганду і праз друк. У 8 акруговых газэтах (іх ня было толькі ў Аршанскай і Барысаўскай акругах) было надрукавана да 440 артыкулаў па сельскай гаспадарцы.

У часопісі „Плуг“ таксама друкаваліся артыкулы мясцовых працаўнікоў. У некаторых акругах (Бабруйскай, Калінінскай) выходзілі асобныя лістоўкі, галоўным чынам к пачатку вясновых прац.

*С.-г. выстаўкі.* У працы па правядзеньню с.-г. выставак агрономы прымалі найбольшы ўдзел. Найбольш выставак было праведзена, як вядома, у дні „Сьвята ўраджаю“. Усяго было праведзена 96 выставак. На ўсіх гэтых выстаўках прымалі ўдзел больш 13 тысяч гаспадароўсялян з экспонатамі. Перабывала на выстаўках каля 250 тыс. асоб. Пры гэтым дадзена сялянам премій:

грашмі—648;

машынамі, насеньнем і іншымі 3.386;

ганаровых дыплёмаў 2957; усяго ў пераходзе на грошы на 23553 р.

*Прэміраваньне насельніцтва за с.-г. палепшаньні (ільготы па с.-г. падатку).* У гэтай працы агрономы зрабілі вялікую дапамогу насель-

ніцтву. Ім вядомы тыя гаспадаркі, якім можна выдаваць тую ці іншую ўзнагароду (прэмію за с.-г. палепшаньні). Усяго агрономамі было прадстаўлена і атрымалі прэміі 25 цэлых раёнаў і сельсаветаў, 494 селішчы і пасёлкі, 125 колхозаў, 60 с.-г. таварыстваў, 12 с.-г. гурткоў і 224 паасобныя сялянскія гаспадаркі. Прэміі выдаваліся машынамі, насеньнем, угнаеньнем, зьніжэньнем падатку і г. д. Усяго к вясьне 1925 г. было выдана ўзнагарод, апрача прэмій на выстаўках, на 88.457 руб.

*Рэгістрацыя культурна-паказальных гаспадарак.* У ліпні 1924 г. Наркамземам былі выданы асобныя правілы аб вучоце сялянскіх гаспадарак, якія адрозьніліся сваёй культурнасьцю (завялі шматпалёвыя севазвароты, правільна даглядаюць скаціну і г. д.). І тут агрономы праводзілі абсьледаваньне гаспадарак. Пры дапамозе агрономаў па 7 акругах (акрамя Полацкай, Мазырскай і Слуцкай) выяўлена і зарэгістравана ўсяго 298 культурных гаспадарак, большасьць якіх прыпадае на Магілеўскую, Віцебскую і Менскую акругі.

*Паказальныя вучасткі.* Каб пашырыць сярод насельніцтва с.-г. веды, агрономы праводзілі так званыя паказальныя мерапрыемствы, як закладка паказальных вучасткаў, гародаў, садоў, абсталяваньне скотных двароў і г. д.

Па ўсіх акругах агрономамі было заложана 1932 палявых і 75 лугавых вучасткаў (больш усяго на сялянскіх землях), з агульнаю плошчаю ўсіх вучасткаў у 216 дзес. Праўда, ня ўсюды гэтыя вучасткі былі добрыя, бо тут мела ўплыў сухая вясна, нястача агрономаў і ў некаторых выпадках няўважлівасьць гаспадара да заложаных у яго дзялянак. Больш усяго было заложана вучасткаў з мінэральнымі ўгнаеньнямі, корняплодамі, лубінам і сэрадэляй.

*Ачыстка і пратручваньне сялянскага насеньня.* Адной з задач агрономаў было палепшаньне сялянскага насеньня ачысткаю і сартаваньнем. Для таго, каб сяляне сартавалі сваё насеньне, агрономамі былі пушчаны па раёнах абозы, з машын па сартаваньню, якія перасоўваліся з месца на месца. Перад вясеньнім пасевам у раёнах працавала 156 абозаў прыблізна з 450 машынамі; акрамя таго, частка машын (галоўным чынам саўхозаў і с.-г. коопэрацыі) працавала на месцы. Усяго працавала каля 800 сартовак (ня лічачы сялянскіх арфаў), якімі было ачышчана для вясеньняга і асеньняга пасеву ўсяго 1.430.000 пуд. збожжа (да 15 проц. усяго пасяўнога матэрыялу).

Для барацьбы з заразаю збожжавых расьлін праводзілася праца па пратручваньню насеньня формалінам і сінім каменем. Лепш усяго гэта праца праходзіла ў Слуцкай акрузе. Усяго пратручана формалінам аўса, ячменю, пшаніцы 67.430 пуд. (Ачыстка на машынах агровучасткаў і пратручваньне насеньня было бяз кошту).

*Організацыя шматпалёвых севазваротаў.* На гэту працу агрономы зьвярталі асабліваю ўвагу, бо тут справа ідзе аб перабудове ўсёй гаспадаркі, а ня толькі палепшаньні спосабаў вырабу поля, кармленьня скаціны і г. д. Правядзеньне севазваротаў мае сувязь, як з земляўпарадкаваньнем, так і з мажлівасьцю дастаць насеньне канюшыны і інш.

У мінулым годзе вясной сярод насельніцтва было разьмеркавана

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15.000 | пуд. | насеньня | канюшыны |
| 17.000 | „ | „ | выкі |
| 4.870 | „ | „ | сэрадэлі |
| 26.000 | „ | „ | лубіну |
| 4.634 | „ | „ | лёну-даўгунца. |

Акрамя таго, было разьмеркавана 82 тыс. пуд. аўса і 62 тыс. пуд. ячменю як мясцовага, так і палепшанага, замежнага.

Праведзена агрономамі праца па пераводу на шматпольле ў 2.709 мясцох для 12.360 гаспадарак. Шматпольле ахапіла 100038 дзес. пахаці, з якіх на пасёлкі і цэлыя селішчы прыпадала 73.503 дзес., на хутары і атрубы 16.103 дзес. і на колектыўныя гаспадаркі 10.482 дзес.

Больш усяго праца па пераходу на шматпольле праводзілася па Бабруйскай, Магілеўскай, Аршанскай і Калінінскай акругах.

Гэту працу закончанай лічыць нельга, бо канчатковы пераход да шматпольля звычайна праводзяць у 2-3 гады, а бывае і ў 1-2 гады.

Таксама агрономам прыходзілася шмат працаваць па земляўпарадкаваньню, прымаць удзел у розных камісіях, ацэнках зямлі і г. д.

*Праца ў с.-г. коопэрацыі.* Ня менш значэньне надавалі агрономы ў коопэрацыйнай працы. Напрыклад, пры ўдзеле агрономаў організаваны галоўным чынам насенныя, машынныя таварыствы, масладзельныя арцелі і мэліорацыйныя таварыствы. Усяго організавана агрономамі за мінулы год каля 10 насенных таварystваў у Менскай, Віцебскай, Бабруйскай і Мазырскай акругах; 6 масладзельных арцеляй у Мазырскай акр., 17 с.-г. коопэратываў у Барысаўскай акр., 22 у Калінінскай і г. д.

*С.-г. саветы.* Для большае сувязі з насельніцтвам, у мінулым годзе агрономамі было організавана 87 раённых с.-г. саветаў. У працу гэтых саветаў агрономы стараліся ўцягнуць найбольш перадавых сялян раёну, хоць гэта не заўсёды ўдавалася. Па вестках з 8 акруг (акрамя Аршанскай і Мазырскай) с.-г. саветы больш, чым на палавіну складаліся з сялян. У сярэднім у саветы ўваходзіла 28 чал. Склікаліся саветы 2 разы ў год—1 раз перад вясеньнім пасевам, а другі раз увосень.

На гэтым мы канчаем пералічэньне некаторых прац агрономіі за мінулы год.

*Перашкаджала працы агронома*:

а) нястача сродкаў на правядзеньне агрономічных мерапрыемстваў;

б) неабсталяванасьць агрономічных пунктаў, музэяў, габінэтаў і г. д.;

в) адсутнасьць коняй для раз'ездаў (у сярэднім быў 1 конь на раён, а ў некаторых акругах; напрыклад, Слуцкай і Мазырскай агровучасткі былі зусім бяз коняй; агрономы прымушаны былі хадзіць пяхотаю па службовых справах);

г) не заўсёды правільнае скарыстаньне агрономаў райземаддзеламі.

І ўсё-ж, ня гледзячы на гэтыя перашкоды, агрономы сваёй працай далі вялікую карысьць сялянам.

Вынікі іх працы ёсьць. Напрыклад, значна ўзрасла плошча канюшыны, выкі, лубіну, сэрадэлі, корняплодаў, лёну. Таксама зьмяншаецца плошча незанятага сялянскага папару.

Не бяз уплыву агронома ў мінулым годзе не хапала на складзе мінэральных угнаеньняў, а іх было разьмеркавана за год каля 500 т. п.

Агроном стаў такім-жа патрэбным у вёсцы чалавекам, як доктар ці настаўнік.

Селянін ужо кліча да сябе агронома будаваць лепшае жыцьцё.

У гэтым годзе лік агрономаў на Беларусі павялічыцца яшчэ прыблізна на 120 чал. На агрономічныя мерапрыемствы таксама выдаецца больш грошай, чым у мінулым годзе. Трэба спадзявацца, што і праца агронома ў гэтым годзе будзе пашырана і паглыблена.

**А. Міхайлаў.**

# Больш увагі раённым с.-г. саветам.

*(З практыкі Полацкай акругі 1924-25 г.).*

Зямельнаму апарату трэба праводзіць мерапрыемствы па арганізацыйнай і тэхнічнай дапамозе сялянскай гаспадарцы і ў значна большым аб'ёме, чым гэта было да гэтага часу. У зьвязку з гэтым і праца раённага зямельнага апарату павінна мець 1) *пляновасьць*, 2) *сувязь з сялянскай гаспадаркай* і яе неадкладнымі і першачарговымі патрэбамі і 3) *арганізацыйную сувязь з шырокімі масамі сялянства*. Раённы сельска-гаспадарчы савет зьяўляецца той арганізацыяй, якая паможа мясцовым спэцыялістым у іх працы. Тут праца раённых с.-г. саветаў заслугоўвае асаблівую ўвагу.

У шмат якіх губ. РСФСР валасныя с.-г. саветы існуюць ужо трэці год і праца іх па адбудове сельскай гаспадаркі дала добрыя вынікі. У нас некалькі інакш. У мінулым годзе, прыблізна ў гэты час, пачалі арганізоўвацца раённыя с.-г. саветы. З матэр'ялаў-жа аб працы с.-г. саветаў відаць, што праца іх яшчэ не наладзілася. Працаўнікі месц, відаць, не ацанілі значэньня раённых с.-г. саветаў.

У справаздачах агропрацаўнікоў і ў дакладах іх, якія чыталіся на сходах, адзначалася, што на раённыя с.-г. саветы шмат хто глядзеў, як на непатрэбную арганізацыю, якая быццам зьяўляецца выдумкай раённага ці вучастковага агронома. У члены раённых с.-г. саветаў уваходзілі асобы па прызначэньню, або асобы якія былі заняты службаю і грамадзкай працай. Адсюль зразумела, што такія члены не маглі прыняць актыўнага ўдзелу ў працы с.-г. саветаў.

Арганізаваліся вельмі вялікія па складу с.-г. саветы; у некаторых раёнах лік членаў саветаў даходзіў да 60 чалавек. Вядома, склікаць паседжаньне такого савету ў вёсцы трудна, затым такія паседжаньні і не маглі адбыцца. Калі зьбіраўся с.-г. савет, то ставіліся пытаньні, якія былі мала зьвязаны з жыцьцём раёну і цікавасьць да іх была невялікая.

Я думаю, што праца раённых с.-г. саветаў будзе больш жыцьцёвай, 1) калі раённыя савецкія і партыйныя ўстановы і арганізацыі прымуць удзел у працы с.-г. саветаў, 2) калі члены с.-г. саветаў будуць перавыбраны адначасна з перавыбарамі сельсаветаў (ад кожнага сельсавету па два чалавекі—член савету і кандыдат да яго); 3) калі склад с.-г. саветаў ня будзе вялікі. Акрамя прадстаўніка РВК, Райкому, КСМ і спэцыялістых, у с.-г. саветы ўвойдуць па адным прадстаўніку ад крэдытовай с.-г. коопэрацыі раёну.

Пры такім складзе лік членаў с.-г. саветаў будзе ў сярэднім ад 20 да 30 чал. Пленум раённага с.-г. савету бывае 2-3 разы ў год.

Для вырашэньня пытаньняў, якія могуць вынікаць у часе працы, неабходна выдзяліць прэзыдыум с.-г. саветаў, у складзе 10-13 чал., які лягчэй склікаць; частку пытаньняў ён можа канчаткова вырашаць, а некаторыя распрацаваць і падрыхтаваць к пленуму с.-г. савету.

Цяпер паглядзім, як вялася праца с.-г. саветаў у мінулым годзе. З большасьці пратаколаў паседжаньняў відаць, што ў с.-г. саветах ставіліся выключна пытаньні агрономічнай працы. У некаторых выпадках, нават савет зваўся ня сельска-гаспадарчым, а агрономічным. Амаль зусім не абгаварваліся землеўпарадкаваньне, с.-г. крэдыт і коопэрацыя, лесаўпарадкаваньне, мэліорацыя, вэтэрынарыя. Як відаць, шмат дзе не зразумелі значэньня с.-г. савету, які павінен ахопліваць

усе галіны сельскай гаспадаркі. На паседжаньні савету гаспадарыпрактыкі павінны самі выравшаць з дапамогай спэцыялістых усе пытаньні с.-г. жыцьця і будаўніцтва вёскі.

У далейшым с.-г. савет павінен унесьці пляновасьць у працу зорганаў.

Паседжаньні пленумаў раённых с.-г. саветаў лепш усяго праводзіць у такія тэрміны:

1. *Канец студзеня—першая палова лютага*; галоўнымі пытаньнямі могуць быць вынікі працы зорганаў зімою, плян працы на новы час, вясеньняя пасеўная кампанія і г. д.

2. *Паміж 15-20 чэрвеня* абгаварваюцца вынікі вясеньняй пасеўнай кампаніі, плян далейшай летняй і асеньняй працы зорганаў, асеньняя пасеўная кампанія, плян працы і каштарысы для наступнага гаспадарчага году.

3. *Кастрычнік-лістапад*—вынікі гадавой працы, асеньняй пасеўнай кампаніі, канчатковы разгляд плянаў працы і каштарысаў на наступны гаспадарчы год.

Раней паседжаньні с.-г. савету праводзіліся ў адзін дзень (нават вечар), ад чаго ўдзельнікі яго адчувалі сябе замарыўшымися і не маглі выяўляць актыўнасьці.

Ня трэба вельмі зацягваць пленум с.-г. савету, бо ён складаецца ў большасьці з занятых сялян-гаспадароў. Каб зьменшыць час працы пленуму, трэба пытаньні, якія стаяць на павестцы дня, перш разглядаць у прэзыдыуме с.-г. савету.

Паседжаньне прэзыдыуму с.-г. савету праводзіцца ня менш 4 раз у год. Для больш цеснай сувязі з сялянствам і прыцягненьня яго для разгляду і абгаварваньня мерапрыемстваў па адбудове і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, трэба каб члены раённага с.-г. савету рабілі часьцей на агульных сходах грамадзян даклады аб працы с.-г. савету.

**Агроном Павалішын.**

---

# Хатні грыб.

З усіх грыбоў, асабліва шкодных для драўляных будынкаў і драўляных частак камяніц, зьяўляецца хатні грыб. Ён заводзіцца толькі на мёртвай драўніне. Гэты грыб пашыраецца хутка, пераходзячы з аднаго дому ў другі. Грыбок заводзіцца на ўсякай драўніне—сасновай, яловай, дубовай і інш.

Пры спрыяючых умовах хатні грыб можа жыць на паперы, якою выклеена хата, дыванох, архіўных кнігах і г. д.

Апрача непасрэдных шкод, хатні грыб прыносіць яшчэ і другія шкоды: пашырае вільгаць, а ў часе пасьпяваньня гэты грыб дае шмат зароднікаў, якія спрыяюць усякай хваробе. Боль галавы, або трасца часта здараецца ад жыцьця ў хатах з грыбам. Яшчэ кажуць, што зароднікі хатняга грыба спрыяюць хваробе, якая завецца ракам.

З хатнім грыбам трэба весьці рашучую барацьбу. Адзнакі прысутнасьці хатняга грыба на драўніне такія: драўніна прымае чырвонабуры колер, трэскаецца ў розных напрамках, пры разламваньні крышыцца на кавалкі, якія маюць больш-менш правільную форму. На трэшчынах знаходзяцца тонкія ніткі, якія выпаўзаюць на верх у выглядзе белай ваты, з кроплямі вільгаці на сваёй паверхні. Некаторыя з гэтых

нітак разрастаюцца, робяцца таўшчынёю з малы палец і даўжынёю ў 2-3 мэтры. Калі гэтыя ніткі пяройдуць на здаровую драўніну, то заразжа пачынаюць псаваць яе. Самай характэрнай адзнакай хатняга грыба зьяўляецца ўтаўшчэньне на нітках.

Грыбня хатняга грыба ў маладым узросьце прыемна пахне але калі пачне гніць, то тады выяўляюцца ўсе шкодныя для здароўя адзнакі.

Зьяўленьне грыба цяжка заўважыць. Добра спрыяюць яго разьвіцьцю вільгаць і прыблізна такая цяплыня, якая бывае ў хаце. На сухой драўніне, якая знаходзіцца ў сухім памяшчэньні, грыб ніколі не заводзіцца. Пры нізкай тэмпэратуры (5° марозу) і пры 40° цяплыні хатні грыб гіне.

Пашыраецца хатні грыб хутка, шляхам заносу сваіх зароднікаў у спрыяючыя месцы, а таксама і пераносам хворай драўніны са складаў і старых будынкаў, якія заражаны гэтым грыбам.

Прадасьцярогі і меры барацьбы з хатнім грыбам.

1. Для пабудовы будынкаў трэба браць сухі матэр'ял.

2. Будынкі трэба часта праветрываць, каб ня было вільгаці.

3. Пры рамонце будынкаў неабходна зараз-жа спаліць усе часткі драўніны, якія заражаны хатнім грыбам.

4. Драўляны падмурак пад будынак трэба рабіць з сухога матэрыялу, які добра вымазаць дзёгцем.

5. Ніз падрубы трэба засыпаць пяском або жвырам.

6. Не мачыць часта падлогу.

Калі-ж, ня гледзячы на прадасьцярогі, завядзецца хатні грыб, то барацьба з ім складаецца з таго, каб зьнішчыць грыбню і грыбныя ніткі. А для гэтага трэба прасушыць памяшчэньне і загніўшыя месцы добра абмазаць дзёгцем або крэозотам, а пасьля гэтага шчыліны заліць цэмэнтам.

**А. Новікаў.**

---

# Зернаед (зярновы слонік).

Амаль усё зярно ў сьвірнах і складах псуецца маленькім жучком або зярновым слонікам (даўганосікам). Дарослыя жучкі бываюць у сьвірнах і складах у верхніх слаёх зярна, ня глыбей 1 арш. Свае яечкі жучок кладзе часьцей усяго на таўсьцейшым канцы зярна. Ён выгрызае ў зярне круглую дзірку і там кладзе яечка. Гэта яечка закрываецца коркам з мукі. Праз 10-12 дзён з яго выходзяць чарвячкі.

Каб адрозьніць папсутае зярно ад здаровага, яго кідаюць у ваду. Папсутыя зёрны плаваюць на паверхні, а здаровыя апускаюцца на дно.

У зёрнах пшаніцы куконччык выядае палову зярна ў адзін і другі бок ад баразёнкі, што праходзіць сярод зярняці; зярняты жыта зусім зьядае акрамя шкарлупы. У сухім зярне куконччык хода зрабіць ня можа і гіне.

Дарослыя жучкі пры цяплыні ў 8-10°R могуць жыць 6-8 мес. Ядуць яны зярно жыта, пшаніцы, кукурузы, аўса, ячменю.

*Меры барацьбы супроць зернаеда* такія:

1. Паражоныя зёрны, як больш лёгкія, аддзяляюцца пры сартаваньні. Затым сьвіран трэба добра ачысьціць. Усе шчыліны ў складах, сьценах і падлозе трэба замазаць вапнаю. Далей сьцены трэба пабяліць, драўляныя часткі абмыць лугам і сьвіран добра праветрыць.

2. У сьвірнах і складах зрабіць дэзынфэкцыю серавугляродам.

**З. Сяргеева-Булаўка.**

# Як высушыць сыры склеп.

(*З уласнае практыкі*).

Каб высушыць сыры склеп, трэба падвесіць у склепе дошку нахілам, насыпаць на яе парашку хлорыстай вапны і паставіць пад яе зьніжаны канец якую-небудзь пасудзіну. Вапна выцягвае вільгаці ўдвое больш, чым важыць сама. Ад вільгаці вапна робіцца рэдкай і сьцякае па дошцы ў пасудзіну.

Ваду можна выпарыць, а вапну пасьля выпарваньня можна зноў скарыстаць.

Такім простым спосабам можна заўсёды падтрымаць у склепе сухое паветра. Селянін **А. Карнейчык.**

---

# Што можа даць папар.

(*Вёс. Скураты, Сьмілавіцкага р.*)

Вясной 1924 г. я падсеяў пад авёс канюшыну на вучастку ў 1.000 квадр. сажняў ці, як кажуць у нашай вёсцы, 4 ганей. Некаторыя з суседзяў, даведаўшыся аб гэтым, пачалі нават сьмяяцца з мяне. „Будзе табе канюшына, калі не палажыў гною“, казалі яны. Але прышлося цярпець і чакаць.

Пасьля прыборкі аўса, канюшына была мала заметна. Вучастак, на якім яна была падсеена, налета прыпадаў у папар і, такім чынам, папар гэты стаў занятым.

На другі год вясною, у самую бяскорміцу я пракарміў 3 каровы і ўсіх сьвіней канюшынаю з вучастку ў 250 кв. сажн., а з кавалку 750 саж. накасіў 150 пуд. добрага сена.

Як каровы, так і сьвіньні ахвотна елі канюшыну, пры чым каровы павысілі ўдоі малака.

Заняты папар лічыцца ў нас адным з лепшых. Пры беднасьці на корм мы адчуваем недастачу ў скаціне, а гэта ў свой чарод адбіваецца і на ўгнаеньні нашых палёў.

Ня гледзячы на тое, што зямлі ў нас таксама мала, каля 1|3 яе штогод прападае дарэмна пад пустым папарам. Зямля, якая знаходзіцца пад позным сялянскім папарам, не адпачывае і не паляпшаецца. Па папару пасецца скаціна, якая толькі яго здратоўвае. Ад гэтага зямля становіцца падобнаю да току на гумне. Вада з такога папару хутка выпарваецца, зямля перасыхае і пры воранцы адвальваецца вялікімі глыбамі. Кавалкі гэтыя не разьбіваюцца ні плугам, ні сахою.

Апрача таго, на такім папары растуць сарнякі. Яны жывёлай не зьядаюцца і яшчэ больш высільваюць і зьбядняюць глебу.

Чысты чорны папар таксама менш выгадны, як заняты. Некаторы недабор ураджаю з занятага папару ў параўнаньні з чыстым, будзе аплочаны ўраджаем канюшыны. Канюшына-ж ня толькі дае прыбытак сваім ураджаем сена, але і ўзбагачвае глебу вельмі патрэбным для яе азотам. Азоту ў нашых глебах вельмі мала і недастачу яго мы можам папоўніць праз пасевы канюшыны.

Як бачым, канюшына зьяўляецца вельмі каштоўнай і выгаднай расьлінай. Хто хоча пазбавіцца бядоты і бяскорміцы, той павінен сеяць яе на сваіх палёх. Селянін **П. Чыкун.**

---

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Колькі лясоў у Беларусі.

У другіх дзяржавах большая частка лясоў належыць земляўласьнікам і толькі ад невялікай часткі лясоў даход ідзе ў дзяржаўны скарб. Так, напрыклад, у Францыі дзяржаве належыць толькі 12 проц. усіх лясоў, таварыствам і ўстановам 20 проц., а земляўласьнікам 65 проц. У Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах дзяржаве належыць 25 проц. лясоў, а 75 проц.—земляўласьнікам; у Ангельшчыне дзяржаве належыць толькі $2^1/_4$ проц., а $97^3/_4$ проц. лясоў належаць земляўласьнікам.

Да рэволюцыі тое-ж самае было і ў тых губэрнях Расіі, якія цяпер уваходзяць у склад Беларусі (12 проц. плошчы лясоў належыла дзяржаве, а 88 проц. прыватным земляўласьнікам).

Цяпер у Беларусі ўсе лясы належаць дзяржаве, г. зн. усе яны зьяўляюцца народным багацьцем, а ўсе даходы ад іх зьяўляюцца даходам народнай гаспадаркі.

У №№ „Плуга“ за мінулы год ужо пісалася аб тым, што цяпер кожны селянін і грамадзянін зацікаўлены ў тым, каб наша лясная гаспадарка вялася правільна, як у лясох дзяржаўных, так і ў сялянскіх. Цяпер неабходна, каб кожны селянін і грамадзянін абаранялі нашы лясныя багацьці і організавана і законна імі карысталіся.

Таксама цікава пазнаёміцца і з тым, што выяўляюць сабою лясы Беларусі, колькі іх, як яны разьмеркаваны, што могуць яны даць насельніцтву і чаго ад іх можня вымагаць.

Наступная табліца паказвае плошчу кожнай акругі, плошчу лясоў па кожнай акрузе, удобную лясную плошчу, гадавую лесасеку і колькасьць драўніны, якая атрымоўваецца з яе.

| АКРУГІ | Агульная плошча акруг у гэктарах [1]) | Плошча лясоў акругі ў гэктарах | | % лясістасьці | Гадавая лесасека ў гэктарах | Абʼём драўніны у куб. мэтр. з гад. лесасекай |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Агульная | Удобная лясная | | | |
| Мазырская . . | 1.563.406 | 875.056 | 614.185 | 39 | 4.770 | 1.010.2-0 |
| Барысаўская . . | 1.195.450 | 474.835 | 410.924 | 34 | 2.467 | 492.769 |
| Полацкая . . . | 968.931 | 329.179 | 28[illegible].613 | 30 | 1.420 | 293.270 |
| Бабруйская . . | 1.423 192 | 458.241 | 384.905 | 27 | 2.587 | 566.065 |
| Слуцкая . . . | 807.595 | 239.820 | 187.905 | 23 | 1.378 | 253.992 |
| Менская . . . | 1.102.818 | 282.309 | 240.369 | 22 | 2.290 | 378.857 |
| Аршанская . . | 873.715 | 182.262 | 169.393 | 22 | 815 | 174 024 |
| Магілёўская . . | 1.158.243 | 273.509 | 246.712 | 21 | 1.126 | 183.943 |
| Калінінская . . | 857.444 | 185.992 | 167.369 | 20 | 1.546 | 292.004 |
| Віцебская . . . | 1.136.278 | 247.692 | 211.579 | 19 | 1.019 | 184.759 |
| Усяго па БССР . | 11.087.080 | 3.548.895 | 2.921.554 | 26 | 19.418 | 3.829.963 |

[1]) Адзін гэктар прыблізна раўняецца 0,9 дзесяціны.

Паказаныя даныя не зьяўляюцца канчатковымі велічынямі. Пасьля новых прац па лесаўпарадкаваньню яны могуць перамяніцца і будуць тады больш точнымі. Але зьмены гэтыя, напэўна, ня будуць значныя, так што паказаная табліца дае даволі пэўны малюнак аб лясох Беларусі.

З табліцы відаць, што агульная плошча лясоў Беларусі мае 3548895 гэктараў. Амаль такую плошчу лясоў мае і Украіна (3727255 гэк.). З табліцы-ж відаць, што ўдобных лясоў у Беларусі 2921554 гэкт., а ня—ўдобнай лясной плошчы, якая патрабуе асушкі, 627341 гэкт.

Графа процантаў лясістасьці паказвае, што па акругах лясы Беларусі разьмеркаваны не раўнамерна, лясістасьць хістаецца ад 39 проц. у Мазырскай акрузе да 19 проц. у Віцебскай. Найменш лясоў ва ўсходняй Беларусі, некалькі больш у заходніх акругах (Менскай і Слуцкай) і найбольш лясоў у акругах, якія цягнуцца паласою пасярэдзіне Беларусі з паўночы на поўдзень (Полацкая, Барысаўская, Бабруйская, Мазырская).

Наогул лясістых акруг у Беларусі мала. Лічыцца нормальным, калі ў акрузе прыблізна 25 проц. лясістасьці і тады пры добрым стане лясоў для данай мясцовасьці драўніны хапае. Пры паніжэньні проц. лясістасьці ніжэй 20, асабліва, калі лясы дрэнныя, то драўніны на мясцовыя патрэбы не хапае. І запраўды, у шмат якіх раёнах нашых усходніх акруг драўніны ўжо не стае на мясцовыя патрэбы.

Сярэдні процант лясістасьці Беларусі 26,7. Хоць ён і здаецца значным у параўнаньні з лясістасьцю тых краін, якія адчуваюць недастачу драўніны і ўвозяць яе з другіх дзяржаў, (Украіна мае ўсяго 7 проц. лясістасьці і купляе многа драўніны ў Бэларусі і ў РСФСР), але ўсё-ж процант лясістасьці Беларусі нельга назваць вялікім. Для параўнаньня можна паказаць Нямеччыну, якая цяпер мае такі самы процант лясістасьці (27 проц.), а да вайны яна прывозіла лес для патрэб сваёй прамысловасьці і будаўніцтва. Цікава і тое, што наш Саюз ССР мае ў сярэднім таксама 26 проц. лясістасьці; г. зн. Беларусь па лясістасьці зьяўляецца тыповай рэспублікай для ўсяго Саюзу ССР.

Калі падлічыць колькі ў год патрэбна для Беларусі драўніны на пабудову, дровы і інш. і параўнаць гэту колькасьць з данымі апошняй графы табліцы, то ўбачым, што ў Беларусі маецца лішак драўніны, якая ідзе на пабудову і рамёслы, але не хватае дроў. Гэта кажа аб тым, што Беларусь можа пашырыць у сябе лясную прамысловасьць і частку драўніны, якая ідзе на пабудову і рамёслы, вывозіць за межы; але трэба ашчэдна карыстацца драўмі. Ашчэднасьць гэта складаецца з таго, што на апал трэба скарыстоўваць у вёсках галіны, пні, павал, а ў гарадох, на фабрыках, заводах і чугунках каменны вугаль, а не стары лес.

Калі параўнаць паміж сабою дзьве апошніх графы табліцы, то будзем бачыць, што 1 гэкт. нашых лясоў дае ўсяго 197,2 куб. мэт. драўніны ці 1 дзес. 22 куб. саж. Гэта малая лічба, бо нашы лясы растуць вельмі добра і могуць даць значна больш драўніны. Але для гэтага трэба, каб кожны селянін і грамадзянін памаглі бараніць лес ад самаўпраўных рубак, ад пажараў, пашы скаціны ў маладнякох, па лесасеках і г. д.

Проф. **Мельнік**.

**Горкі, с.-г. Акадэмія.**

# Дрэва і як яго ўжываць.

Даволі паглядзець навакол сябе, каб пераканацца ў тым, якое вялікае значэньне мае драўніна. Яна ідзе на будову; чугункам патрэбны шпалы, тэлеграфныя слупы і інш; у капальні ідзе шмат дробнага лесу на падпоркі. Нават нельга пералічыць усе віды ўжываньня лесу.

Цяпер людзі знашлі такія новыя спосабы ўжываньня драўніны, аб якіх раней ніхто і ня думаў. Напрыклад, папера вырабляецца з драўніны, у самыя апошнія часы пачалі пускаць фабрыкі, якія вырабляюць з асіны і елкі шоўкавыя ніткі і матэрыю. Гэты шоўк зусім падобны да праўдзівага. Бачым, як усё больш і больш людзям будзе патрэбна драўніна.

Але нам трэба навучыцца гаспадарліва абыходзіцца з лесам, умець выбіраць патрэбны, каб быць ў гэтым кірунку вельмі ашчэднымі гаспадарамі.

Дрэва нашых беларускіх лясоў пекнае, сакавітае і прыдатна да ўсяго. Бяда толькі ў тым, што нашы сяляне ня ўмеюць як трэба выкарыстаць і шанаваць гэты матэрыял.

Моц дрэва залежыць ад розных прычын. Чым дрэва старэй і мае тонкія гадавыя слаі прыросту, тым яно крапчэй. Сасновы лес, які вырас на сухіх пясках, дае лепшы матэрыял, чым лес, які вырас на вільготных і мокрых мясцох. Праўда, і на тарфяных балотных глебах расьце надта цьвёрды хваёвы лес.

Самая-ж важная справа—гэта пара, калі валіць лес. Спушчаць дрэва з пня трэба толькі зімой, бо драўніна тады наймацнейшая: яна мае найменш вады і дрэва ня можа запаветрывацца шкоднымі бактэрыямі і грыбкамі, якія галоўным чынам псуюць драўніну. Апроч таго, пры гэтым ня могуць разводзіцца розныя хваробы лесу.

Выбіраючы дрэва на пні, трэба спачатку агледзіць, каб яно ня мела хібаў, як губкі, сахатасьць, шмат суччa. Адрозніць здаровае дрэва ад трухлявага можна па гуку. Здаровае дрэва, калі стукнуць па ім абухам зьвініць; трухлявае аддае глуха.

Апушчаць дрэва з пня трэба ў ціхую пагоду, і з бяды пры маленькім ветры; але ніколі нельга спушчаць дрэва пры вялікім ветры, бо можа быць шмат глуму; пень можа рашчапіцца і дрэва разьдзярэ папалам; паваліўшаеся куды ня трэба дрэва папсуе малады лес. Спанатрыўшы, што дрэва хіліцца ня ў той бок, куды трэба, ужываюць кліны і падпоры.

Рэзаць трэба нявысока ад зямлі (у нас, нажаль, рэжуць высока: ня хочуць гнуцца). Трэба памятаць, што ў пні наймацнейшая і даражэйшая драўніна. Пні трэба рэзаць ад зямлі на $^1/_3$ грубіні дрэва. Калі ў грудзёх дрэва таўшчынёй 9 вярш., то пень ад зямлі можа быць 3 вярш.

Паваліўшы дрэва, яго цярэбяць. Тут трэба добра пільнаваць, каб каля сукоў не нарабіць засечак (ад іх пры высыханьні пойдуць шчыліны).

Ацярэбленае дрэва рэжуць на кавалкі такой даўжыні, якую вымагае будова. Пры гэтым трэба пільнавацца, каб кожны адрэзаны кавалачак быў як найлепш выкарыстаны.

Парэзаныя кавалкі дрэва трэба высушыць, бо будавацца можна толькі з сухога дрэва. Сушыць-жа яго ў нас, нажаль сказаць, зусім ня ўмеюць. Нельга карыць адразу ўвесь кругляк, бо дрэва, высыхаю-

чы, у многіх месцах патрэскаецца. Здымаць кару я раіў-бы кружочкамі, застаўляючы кару паміж акоранымі месцамі прыблізна на чверць аршына. Пры гэтым спосабе ўсушка пойдзе раўней і бяз шчылін. Нельга дрэва класьці проста на зямлі, а трэба даць падкладкі; тады толькі драўніна будзе здаровая, белая і не пасінее.

З высушаных калодак рэжуць дошкі, брусы, бэлькі, палавінкі; пры гэтым трэба добра меркаваць, каб як найменш дрэва глумілася.

Калі мы наважылі парэзаць калодку на дошкі, то трэба перш яе апілаваць з чатырох бакоў, мяркуючы, каб аполкаў ня пушчаць тоўстых: з іх невялікая карысць. Выразаючы палавінкі, якія часамі патрэбны на вушакі, падлогу і г. д., трэба меркаваць так, каб з самай сярэдзіны калодкі вышла хоць адна дошка.

Хату можна будаваць з брусоў ці круглякоў, у апошнім выпадку калодкі трэба выбіраць найраўнейшыя і добра іх высушыць.

Латы лепш рэзаць з тоўстай штукі, чым часаць іх з жэрдзя.

Галоўным чынам з ляснымі матэрыяламі трэба лічыцца вельмі ашчэдна, бо выгадаваць дрэва ў прыродзе ня проста, ды ў нашай вёсцы яшчэ доўга прыдзецца чакаць мураваных будынкаў.

Лесавод **М. Шалупенка.**

---

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ.

## Перавод зямлі пад розныя промыслы.

У БССР, як і ў СССР, уся зямля належыць дзяржаве. Частка яе знаходзіцца пад лесам, другая пад чугункамі, у карыстаньні вайсковых організацый; невялікая плошча занята гарадамі, частка ўваходзіць у склад дзяржаўнай маемасьці. Рэшта-ж зямлі знаходзіцца ў трудавым карыстаньні працоўнага сялянства.

Дзяржава дае земляробу права безтэрмінова карыстацца зямлёю, але пры гэтым вымагае, каб земляроб сам працаваў на зямлі. Калі-ж у яго ёсьць парабкі, то гаспадар павінен працаваць нароўне з імі. Акрамя таго, дзяржава вымагае, каб землякарыстацель старанна апрацоўваў зямлю і вёў на ёй добрую гаспадарку. Толькі ў некаторых (акрэсьленых законам) выпадках дазваляецца здаваць зямлю ў арэнду.

Зямельныя органы і зямельныя аб'яднаньні павінны назіраць за захаваньнем гэтых праваў.

Калі земляроб будзе дрэнна весьці сваю гаспадарку, ці зусім ня будзе працаваць і здасьць зямлю ў арэнду без дазволу Райвыканкому, ці пачне гаспадарыць, карыстаючыся пры гэтым толькі працаю парабкоў, а сам працаваць ня будзе, то па іску зямельных органаў ці ўпаўнаважаных зямельных аб'яднаньняў раённая зямельная камісія можа адабраць зямлю ад такога гаспадара.

Знача, земляроб павінен сам весьці сельскую гаспадарку на зямлі, якая знаходзіцца ў яго карыстаньні.

Як-жа яму тады зрабіць, калі бывае магчымасьць з большаю карысьцю і для яго і для насельніцтва карыстацца гэтай зямлёю другім спосабам? Напрыклад, на вучастку працоўнага землякарыстаньня ёсьць добрае якасьці гліна, пясок, вапна, мел, торф і інш. Прысут-

насьць гэтых матэрыялаў дае магчымасьць пабудаваць цагельню, ганчарню, гуту, заняцца вырабкам чыстага мелу, торфу на апал і інш. Таксама, калі такі вучастак знаходзіцца каля вакзалу чугункі, прыстані, лесарасьпрацоўкі, то гэты вучастак неабходна заняць пад склад лясных матэрыялаў.

Ва ўсіх гэтых выпадках працоўны землякарыстацель, калі зьбіраецца сам завесьці нясельска-гаспадарчую прамысловасьць на сваёй зямлі ці хоча здаць яе ў арэнду другому на гэту-ж мэту, павінен падаць аб гэтым заяву ў мясцовы Райвыканком. Для праверкі заявы Райвыканком склікае камісію ў складзе прадстаўніка сельсавету і неабходных спэцыялістых—агронома, лясьнічага, земляўпарадкаваценя.

Камісія гэта павінна вырашыць, ці запраўды пераход зямлі пад даную прамысловасьць будзе больш выгадным, чым скарыстаньне яе для сельскай гаспадаркі.

Акрамя таго, камісія вырашае, які ўплыў зробіць гэты пераход зямлі на карыстаньне зямель данай гаспадаркі, спраўджвае цэлы шэраг іншых пытаньняў і аб выніках свайго агляду піша пратакол.

Пратакол гэты прад'яўляецца заявіцелю і сумежным з ім землякарыстацелям. Іх пярэчаньні і жалабы, якія заяўлены пры прад'яўленьні проэкта, запісваюцца ў пратакол; зацікаўленым асобам абвяшчаецца парадак і двухтыднёвы тэрмін яго абжалаваньня; затым уся справа перадаецца ў раённую зямельную камісію на разгляд.

Тыя-ж правілы захоўваюцца і пры пераходзе пад розныя промыслы выганаў, пасьбаў і няўдобіц, якія знаходзяцца ў непасрэдным карыстаньні зямельных аб'яднаньняў.

Акрамя вырашэньня зямельных органаў аб звароце зямлі трудавога карыстаньня пад нясельска-гаспадарчую прамысловасьць, трэба таксама мець дазвол адпаведных органаў на пабудову і абсталяваньне заводу, на права занятку прамысловасьцю, калі гэта прадугледжана законам.

У выпадку пераводу зямлі трудавога карыстаньня пад нясельска-гаспадарчую прамысловасьць без належнага дазволу ад землякарыстацеля, зямельная камісія можа часова ці на ўвесь час адабраць зямлю па іску зямельных органаў. Калі-ж ён здасьць зямлю ў арэнду без дазволу пад нясельска-гаспадарчае карыстаньне, то зямельная камісія павінна скасаваць угавор і зрабіць пастанову аб зносе будынкаў і матэрыялаў з гэтае зямлі, а грошы, якія атрымаў землякарыстацель па незаконным угаворы, забраць у даход дзяржавы.

**Аўг. Вішнеўскі.**

---

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Сельская гаспадарка Полаччыны.

Край наш узгорчаты. Навокал бугры, а паміж імі лагчыны, нізіны. Грунтовая вада недалёка; клімат сярэдні. Вільгаці ня толькі хапае, але іншы раз бывае і залішне. Уся плошча нашага краю складаецца з пахаці, якая вышла з-пад лесу, балот (у болошай часьці маховых) і вазёр. Ёсьць у нас і шмат сенажацяй (заліўных, мокрых, балоцістых, сухадольных), але ўсе сненажаці ў большасьці кіслыя; па сухадолам знаходзім зьдзічэлую дзярніну і сівец; поле, калі яго не араць, хутка зарастае і робіцца дзікім. Зямля—больш супескі, менш лёгкія суглінкі і падзолы. Лес мяшаны—елка, бяроза, асіна, альха, арэшнік. У лесе шмат грыбоў і ягад, дзікай маліны, чарніц, журавін. Ягады гэтыя прадаюць на станцыях чугункі, якая праходзіць на Ленінград. Іншы год. калі бывае добры ўраджай ягад, гандляры з Ленінграду ўсё гэта нясеянае дабро вывозяць вагонамі. У іншых мясцох на палёх шмат каменьня, якое трэба зьбіраць.

Гаспадарка ў большасьці вёсак вядзецца дрэнна; гонімся, нажаль, за колькасьцю зямлі, затым-жа часта спрачаемся паміж сабою, а на лепшую работу не зьвяртаем увагі. Аб сенажаці амаль што зусім не клапоцімся. Урождайнасьць поля трымаецца гноем.

Севазварот трохпалёвы, пры якім сеюць больш збожжавых расьлін. Ад такога севазвароту і ад разорваньня прыродных сенажацяй край толькі галее. Сяляне сеюць азімае жыта нават пасьля збожжавых расьлін (ячменю, яравой пшаніцы і г. д.).

Воранка робіцца аднаконным лёгкім плугам, які бярэ толькі да 8 см. (2-х вярш.). Жыве яшчэ і саха. Барана драўляная з жалезнымі зубамі, але няўмела зробленая.

„Машыны“ дзеля прыборкі збожжа з поля і травы з сенажаці—серп і каса. Жатка спатыкаецца вельмі рэдка. Снапы сушаць у ёўнях, а да таго часу яравое збожжа сохне на полі ў „бабках“; многа зярнят вытрасаецца пакуль збожжа дойдзе да засеку. Але першыя крокі да куплі машын і пераходу на шматпольле з засевам траў пачынаюцца.

*Сяляне сеюць* яравую пшаніцу. Пашырацца яна пачала ня так даўно. У сартох яшчэ не разьбіраюцца. Азімае жыта страшэнна засьмечана. Сеюць сяляне жыта, а жнуць гірсу. У вільготныя гады яна дасягае 80 проц. і сяляне кажуць, што жыта выраздзілася ў гірсу (недарэчнасьць!). Хлеб з такога жыта бывае чорны, жорсткі і мала пажыўны. Сарты ячменю мяшаныя; пажадана пашыраць чатырохрадковы ячмень, бо ён лепш за іншыя сарты пераносіць наш клімат і звыкаецца з лёгкаю глебай і кепскім яе выпрацаваньнем. Ячмень гэты з доўгімі жорсткімі асьцюкамі, ураджайны і хутка сьпее. У апошнія гады павялічыліся засевы яравого жыта. Авёс зусім дрэнны. Лепшым сортам аўса будзе швэцкі. Па суглінках лепш сеяць шацілаўскі.

Грэчку сяляне сеюць мала, а яна ў нас добра ўдаецца і высьпявае ў кароткі тэрмін (80—90 дзён).

Гарох шэры расьце добра. Толькі сяляне заўсёды позьняцца з яго пасевам. Гароху часта шкодзяць жучок-зернавік і тля.

Яравую выкавую мешаніну сеюць з вялікай ахвотай.

Лён сеюць на валакно. Лепшае месца ў нас для лёну-канюшынішча, але сеюць яго і ў яравой зьмене, хаця гэта і пустошыць поле. Насеньне лёну паходзіць з Пскоўскага даўгунца і даволі трывалае. Лёну шкодзіць зельле, якое глушыць яго; вырваўшы лён сяляне часта косяць траву на сена. Бульбу садзяць у яравой зьмене і зямля пасьля бульбы ідзе ў папар, замест таго, каб пасеяць там пшаніцу ці ячмень. Канюшыну толькі пачынаюць сеяць. Аб лубіне толькі гутарым. У некаторых-жа месцах лубін вельмі патрэбен на зялёнае ўгнаеньне.

З іншых галін сельскай гаспадаркі ў сялян зьяўляецца ўсё большая і большая цікавасьць да садоўніцтва (большасьць да яблын) і да пчалярства.

У жывёлагадоўлі пакуль што цікавяцца больш маладняком на кірмаш. Рабочы-ж конь, карова, авечка, сьвіньня ды і куры амаль што выradзіліся.

Што-ж можна раіць надалей?

1. Трэба пакінуць разворваньне і зьністажэньне прыродных сенажацяй. Трэба вярнуць сенажацям тую зямлю, якая была разорана пад збожжавыя культуры.

2. Трэба адрачыся ад трохпольля, якое вядзе сялян да згубы, і перайці да пладазьмену з травамі. Трэба ісьці за вучыцелям і аграномам. Іх дзейнасьць нясе з сабою вызваленьне чалавека ад непамерна цяжкай працы. Цяпер магчыма сабраць усе сілы і пачаць будаваць сельскую гаспадарку па новаму.

3. Пашырэньне с.-г. машын і прылад зьяўляецца вялікім прогрэсам. Выпрабленьне поля павінна быць культурным, асабліва папару.

4. На пескавой зямлі трэба сеяць лубін на зялёнае ўгнаеньне пад азімае жыта. Дзе можна, там угнойваць поле мінэральнымі ўгнаеньнямі.

5. Трэба клапаціцца, каб насеньне было адборным і чыстым.

6. Кожны гаспадар павінен стаць сябрам с-г. кооперацыі, крэдытна-мэліорацыйнага таварыства і сябрам контрольнага саюзу.

Трэба разводзіць сады, садзіць дрэвы каля дарог і г. д. Трэба павялічыць засеў бульбы. Трэба дагнаць і папярэдзіць культуру Заходняе Эўропы і Амэрыкі.

Райагроном *Анненкаў*.

---

# Да гісторыі сельскай гаспадаркі Беларусі.

Нашай маладой агрономіі, якая разам з іншымі савецкімі працаўнікамі стварае новыя формы сельскай гаспадаркі, для большага посьпеху ў сваёй працы, напэўна, патрэбна вывучаць і мінулае гэтай гаспадаркі. Стан гаспадаркі ў мінулым ёсьць рыска, па якой мы падлічваем свае посьпехі і дасягненьні.

Так, замена аднэй расьліны другою або зьяўленьне новай мае пад сабою папярэднія прычыны. Таксама мае сабе тлумачэньне і за-

мена ў малацьбе цэпа малатарняй, у жніве сярпоў жаткаю, пры воранцы—сахі плугам і г. д.

Шмат што з гэтага трэба паказаць дзеля таго, каб ведаць, што з старога аджыло свой век і чаму да яго ня трэба вяртацца.

Зараз нам трэба толькі зьбіраць матэрыялы да гэтай гісторыі, бо лепшыя сьведкі мінулага—стагоднія беларускія гаспадары могуць паўміраць, хаваючы з сабою і шмат цікавых вестак аб сельскай гаспадарцы Беларусі.

З памяці такіх „мудрых гаспадароў" працаўнікамі Беларускай Агрономічнай станцыі (Банцараўшчына, 1922-23 г.) быў распачаты збор матэрыялаў да гісторыі сельскай гаспадаркі Беларусі.




Саха. 1 Рагач. 2 Ручкі. 3 Акуцьцё. 4 Плаха. 5 Паліца. 6 Прыполак. 7 Нарогі. 8 Аглоблі.

Зараз апісваецца толькі беларуская саха Мірона Талочкі, мадэль якой Б. А. С. быў паказаны на ўсесаюзнай выстаўцы.

*Беларуская саха.* Сучасная саха Мірона Талочкі (хутар Рабіньнік каля Банцараўшчыны, Менскай акр.) зьяўляецца ўжо трэцяй і значна дапоўненай формай (конструкцыяй) той сахі, якая год 80 таму назад была ў гаспадарцы Янкі Чартовіча (селянін вёскі Зацень, Сёмкава-Гарадзецкай вол., Менскага пав.).

У Янкі Чартовіча калісь працаваў парабкам Мірон Талочка. Але год 50 таму назад Мірон Талочка купіў сабе ў пана Хмары 5 дзес. жвыраватых пяскоў і бугроў у 1 вяр. ад Банцараўшчыны.

У пачатку свайго гаспадараваньня Талочка адмайстраваў сабе саху зусім падобную да сахі Янкі Чартовіча, але яна не здавальняла гаспадара: дрэнна рэзала і дрэнна высьцілала дзярніну. На працягу далейшых 20 год Талочка тры разы яе зьмяняў і перастрайваў. Нарэшце збудаваў сучасную саху (гл. мал.). Цяпер ужо каля 30 год гэта саха ужываецца на хутары Талочкі бяз зьмен.

Па думцы Талочкі гэта саха вельмі добра падыходзіць да выраблення пасек (дзерваноў з-пад лесу). Плугам там працаваць нельга: яго спыняюць карэньні, пні ды карчы. Зусім іншая справа—праца

сахою. Яна левым нарогам добра падрэзвае карані, лёгка запускаецца ў грунт і мала валтузіць каня. Таксама сахою можна ўзараць поле да самага пня ці карча.

Глыбіня ворыва рагулюецца апусканьнем ці падыманьнем плахі. Робіцца гэта з дапамогай кліна ў рагачу і падсошніка з вяроўкаю. Шырыня захвату мяркуецца паваротам рагача ўправа ці ўлева.

З няменшым посьпехам працуе саха і на значна камяністым полі. Плуг тут наскаквае на каменьні, выбіваецца, кідаецца ў бакі, выскаквае на паверхню, валтузіць каня і хутка псуецца.

Сахою добра садзіць і бульбу. Правым нарогам яна ўспульхнівае дно баразны, па якой раскладваюць насеньне бульбы, а левым прысыпае баразну. Праўда, праца з сахою патрабуе нейкай практыкі, але працаваць лягчэй, чым з плугам.

З астатняй конструкцыі сахі Мірона Талочкі шмат сялян здымалі формы і майстравалі сабе сохі.

*Да гісторыі плуга.* (Вёска Мудраўка, Заслаўскага раёну, Меншчына). Звыш 40 год таму назад ня толькі сяляне вёскі Мудраўкі, але і сяляне іншых вёсак выраблялі поле сохамі. Поле там сугліністае. Працаваць на ім з сахою даволі цяжка. Дзярніну саха добра высьцілала і яна хутка прэла, але конь ішоў цяжка. Падругое, саха лёгка забіваецца травою, якая набіваецца паміж нарогаў, на плаху і прыполак. Трэба вельмі часта сунімаць каня і ачышчаць саху. У сухую пагоду саха рассыхаецца, а ў дождж рвуцца вяроўкі і г. д.

Плугі-ж у той час былі толькі ў маёнтку Тарасаве (цяпер саўхоз). У працы яны ішлі шмат лягчэй.

40 год таму назад (1883 г.) Базыль Віткоўскі, які меў 10 дзес. зямлі, у сваёй вёсцы першым купіў плуг. Заплаціў зя яго ў Менску (с.-г. склад) 8 руб. Плуг меў прамы дышаль і шмат іншага жалеза і быў вельмі цяжкі.

На другі дзень пасьля куплі, Базыль Віткоўскі запрог каня і паехаў на поле. Сабралася шмат суседзяў, каб паглядзець на працу плуга. А працаваў ён вельмі дрэнна. Плуг то выскакваў, то зарываўся ў зямлю. Пад скібамі воранае зямлі мог „хавацца сабака“. Прышлося плуг павезьці ў маёнтак Тарасава да каваля ў направу. Той амаль зусім перарабіў яго, зрабіў плуг лягчэйшым і больш удалым. За ўсё гэта ўзяў 7 руб. Такім чынам, плуг каштаваў ужо 15 руб. Але ўвосень ён працаваў ужо вельмі добра. Гэта спадабалася сялянам; на другі год шмат хто з іх купіў сабе плуг.

Праз 3 гады плугі яшчэ больш пашлі ў славу і цана на іх зьнізілася да 3-х руб. (на лепшыя да 3 руб. 20 кап.).

Калі цяпер пацікавіцца, калі зьявіўся плуг у другіх вёсках таго-ж раёну, то ў вёсках бліжэй да Менску, плуг зьявіўся пазьней. Так, селянін вёскі Зарэчча І Сымон Шыманскі сьведчыць, што ў 1895 г. ён купіў плуг першым.

Такім чынам, на пяскох вёскі Зарэчча 1 блізка каля Менску саха магла жыць на 12 год больш, чым у вёсцы Мудрацы (на суглінках). На камяністым жа полі хут. Талочкі саха яшчэ і зараз жыве.

С. Т.

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі.* *А. Смоліч.* *Сьц. Тупяневіч.* }